«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 44 (4604)

15 чэрвеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Не згубім «Народную Волю»!

Шаноўныя чытачы!
Паважаныя валанцёры!

Усе, хто можа ўзяць удзел у выратаванні «Народнай Волі»!

Наступіў час, калі лёс незалежнай газеты залежыць толькі ад Вас. Паколькі ўжо каторы месяц выданне не мае даходаў ад рэалізацыі праз «Белпошту» і «Белсаюздрук», то рэдакцыя ў чарговы раз звяртаецца да Вас, дарагія прыхільнікі свабоднага слова, з просьбай: **дапамажыце!**

Толькі разам мы зможам ўратаваць «Народную Волю». Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускай транскрыпцыі):

**1.Через ЕРИП:**
**СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.**

**2.Через БАНК:**
**ИЧУП «Народная Воля». 22030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,**
**Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск**
**УНП 100961759, ОКПО 37381505**

Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Мікалая Статкевіча і Сяргея Ціханоўскага будуць судзіць у СІЗА?



Нагадаем, што **Мікалая Статкевіча** затрымалі 31 мая 2020 года, калі ён ехаў на пікет Сяргея Ціханоўскага. Пазней яго абвінавацілі ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў (ч.2 арт.293 КК).

4 мая стала вядома, што справу Статкевіча і шэрагу іншых палітвязняў будзе разглядаць Гомельскі абласны суд.

Сярод абвінавачаных – **Сяргей Ціханоўскі**, блогеры **Ігар Лосік** і **Уладзімір Цыгановіч**, а таксама **Арцём Сакаў** і **Дзмітрый Папоў**.

На днях з'явілася інфармацыя, што палітвязняў як быццам збіраюцца судзіць у закрытым рэжыме нават не ў судзе, а ў гомельскім СІЗА. Ці магчыма такое?

*«Я ведаю, што такую інфармацыю нехта запусціў у інтэрнэце, але гэта ўсяго толькі чуткі і не больш за тое,* – распавяла «Народнай Волі» **Марына АДАМОВІЧ**, жонка Мікалая Статкевіча. – *Ніякай афіцыйнай інфармацыі ні пра дату пачатку працэсу, ні пра яго фармат няма.*

*Тым не менш паведамленне пра тое, што суд пройдзе ў СІЗА, многія СМІ падхапілі і распаўсюдзілі. Я нават не выключаю, што гэта быў адмысловы інфармацыйны «зліў» з таго боку, каб праверыць рэакцыю грамадства.*

*Але, мяркую, суд і на самай справе зробяць закрытым, як гэта было ў выпадку з Паўлам Севярынцам».*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

– Прэцэдэнты, калі людзей судзілі ў следчым ізалятары, ужо былі, – *кажа праваабаронца* ***Валянцін СТЭФАНОВІЧ***. – Напрыклад, у такім фармаце праходзіў працэс над фігурантамі «банды Марозава», і тады гэта абгрунтоўвалася мерамі бяспекі. Было шмат падсудных, і ў выніку два чалавекі былі асуджаны да смяротнага пакарання.

Але мне абсалютна незразумела, чым будуць кіравацца, калі фігурантаў «справы Ціханоўскага» таксама вырашаць судзіць у СІЗА ў закрытым рэжыме. І навошта наогул рабіць працэс закрытым, нават калі абвінавачаных будуць дастаўляць у суд? Ніякага абгрунтавання такіх дзеянняў я не бачу. Мерамі бяспекі гэта не назавеш. У матэрыялах справы ёсць сведчанні, якія складаюць дзяржаўную тайну? Мяркую, што няма.

Таму, калі суд пройдзе ў СІЗА і будзе закрыты, то праваабаронцы расцэняць гэта як парушэнне прынцыпаў справядлівага судовага разбіральніцтва. Гэта парушае працэсуальныя правы падсудных.

Не выключаю, што закрытасць працэсаў – гэта элементарнае жаданне схаваць рэальнасць абвінавачанняў і іх бязглуздасць.

ЧУЛІ?

## Мільён польскіх віз

*Польшча адкрыла беларусам больш за мільён віз.*

Гэта самая вялікая колькасць віз, якая было выдадзена беларусам якой-небудзь дзяржавай Еўрасаюза.

Як паведаміў намеснік міністра замежных спраў Польшчы **Марцін Пшыдач**, *«сумесна з Літвой Польшча выдала 80% усіх віз беларусам».*

ДАРЭЧЫ

## Візу можна атрымаць праз Міністэрства замежных спраў

Польскі ўрад выдаў распараджэнне, згодна з якім правам выдачы віз цяпер надзяляецца міністр замежных спраў Польшчы.

Заявы на атрыманне візы будуць прымаць у МЗС у Варшаве. Дакумент уступае ў сілу 14 чэрвеня 2021 года, перадае *Белсат*.

Да гэтага часу візавымі пытаннямі займаліся консулы. Цяпер беларусы змогуць атрымаць візу, звярнуўшыся ў спецыяльны аддзел Міністэрства замежных спраў Польшчы. Мяркуецца, што працэдура павінна стаць зручней і хутчэй.

Беларусь пакуль адзіная краіна, грамадзянам якой Польшча такім чынам спрасціла працэдуру атрымання віз. У МЗС можна будзе звяртацца ў тым ліку за рабочай і турыстычнай візамі.

Як будзе выглядаць уся працэдура і якімі будуць тэрміны, пакуль дакладна не вызначана.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Вячеслав Бурский написал прошение о помиловании

*Экс-гендиректор холдинга «БелОМО», доктор технических наук* ***Вячеслав Бурский*** *в течение месяца должен получить ответ на свое обращение к Александру Лукашенко.*

Стоит заметить, что коллектив завода, которым много лет руководил Бурский, также отправил обращение на имя А.Лукашенко с просьбой помиловать экс-гендиректора «БелОМО» – дело в том, что законодательство изменилось, и теперь и трудовые коллективы могут подавать ходатайства о помиловании.

Как уже сообщала «Народная Воля», Бурский приговорен к 5 годам лишения свободы в колонии усиленного режима. За взятки. Ему 74 года.

Год наказания Бурскому уже отминусовали – к нему применили амнистию.

Все его жалобы на приговор остались без удовлетворения.

Вячеслав Бурский отбывает наказание в Бобруйской исправительной колонии. Некоторое время он находился под домашним арестом, а после приговора



прямо в зале суда на него надели наручники. Бурского этапировали в Жодино, а уже оттуда, когда приговор вступил в законную силу, перевели в Бобруйск.

*«Я встречался с Вячеславом Александровичем – он нормально держится, не падает духом,* – рассказал «Народной Воле» адвокат Бурского. – *Две недели назад примерно он подал документы на помилование, теперь ждем ответа. Может быть, к 3 июля и будет амнистия. В тюрьмах сейчас говорят: кто хочет помилование – пишите ходатайство. Он, естественно, воспользовался возможностью.*

*Недавно, как вы знаете, отпустили на волю осужденных за коррупцию медиков академика* ***Александра Белецкого*** *и бывшего заместителя министра здравоохранения* ***Игоря Лосицкого****. Не хуже же Вячеслав Бурский этих медиков, у него, может, и больше заслуг перед родиной! Тем более 23 мая было ровно два года, как он отсидел. И год ему убрали по амнистии... Очень надеемся, что ко Дню независимости выйдет на свободу».*

**Марина КОКТЫШ.**

НУ І НУ!

## У Полацку забаранілі Еўфрасінню Полацкую?



Жыццё і навуковая дзейнасць гісторыка і пісьменніка **Сяргея Тарасава** непарыўна звязаны з Полаччынай, таму заканамерна, што першыя прэзентацыі сваёй новай кнігі «Еўфрасіння-Офрасіння-Афрасіння. Яе час – яе крыж», прысвечанай Еўфрасінні Полацкай, ён планаваў правесці ў Полацку і Наваполацку. 12 чэрвеня свайго земляка чакаў полацкі Музей кнігадрукавання і Музей гісторыі Наваполацка, аўтар разрэкламаваў сустрэчы на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку». Але раптоўна, калі Сяргей Тарасаў ужо прыехаў у горад над Дзвіной, які справядліва называюць «калыскай беларускай дзяржаўнасці», яму паведамілі, што мерапрыемства не адбудуцца. Прычын ніхто не патлумачыў.

Здаецца, і помнік Святой Еўфрасінні ў горадзе стаіць, і вуліца яе імя маецца, а вось жа – прэзентацыю кнігі (шыкоўна выдадзенай прыватным выдаўцом Р.Цымберавым) забаранілі...

С.Тарасаў лічыць гэтае выданне галоўнай кнігай свайго жыцця. На яе старонках даследчык, між іншым, выказвае свае здагадкі, прычым даволі абгрунтавана, пра сённяшнее месцазнаходжанне арыгіналу крыжа Еўфрасінні Полацкай (які афіцыйна лічыцца страчаным).

У Мінску непажаданае для полацкіх чыноўнікаў выданне пакуль прадаецца ў «Акадэмкнізе», яе таксама можна замовіць праз інтэрнэт-кнігарню knigaosha.by.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

**На фота: Аўтар з кнігай «Еўфрасіння-Офрасіння-Афрасіння. Яе час – яе крыж».**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Испытание санкциями

Европарламент принял резолюцию по белорусскому вопросу. Был рассмотрен целый ряд позиций в основном санкционного характера с конкретными предложениями по практическим действиям. Вообще, список осуждений политических действий белорусского руководства и перечень возможных экономических санкций довольно внушительны. Здесь и оценка ЕС посадки самолета Ryanair в Минске, и обращение с людьми в местах ограничения свободы, и отключение Беларуси от SWIFT, недопуск на Олимпиаду и много еще чего. Предложено ввести секторальные санкции против экспорта продуктов нефтепереработки и сельхозудобрений. В частности, против белорусских НПЗ, «Беларуськалия» и «Гродно Азота».

Резолюции Европарламента носят рекомендательный характер. Поэтому пока не известно, какие из предложенных кар будут реализованы на практике. Это будет решать Европейская комиссия – высший исполнительный орган ЕС. То, что санкции будут, и довольно жесткие, сомневаться не приходится. Они станут довеском к санкциям США в отношении девяти белорусских предприятий, которые вступили в силу. Естественно, правительство тоже просчитывает варианты, как смягчить их действие. По прикидкам премьера Р.Головченко, при самом неблагоприятном сценарии ущерб от санкций может достигнуть 3% ВВП страны. Эти потери, по мнению главы правительства, легко закроются за счет других направлений, а потому не представляют для белорусской экономики сколько-нибудь реальной угрозы.

Действительно, если речь идет об удобрениях, то доля их поставок в Европу оценивается в 10%. Основные покупатели калийных удобрений – Китай, Индия и Бразилия, которым прямые санкции ЕС могут быть по барабану. Но тут будут вторичные санкции, которые в последнее время применяют американцы. Под них попадают любые контрагенты, имеющие партнерские отношения с подсанкционными предприятиями. А в доставке до конечного потребителя, к примеру, калийных удобрений участвуют дистрибьюторы типа норвежской Yara. Это относится и к российским поставщикам нефти на белорусские НПЗ, которые почему-то уже в мае, до вступления в силу американских санкций, резко ограничили поставки нефти на «Нафтан». Есть первые свидетельства прекращения отгрузки в Беларусь продукции через портовую литовскую Клайпеду. Литва и Латвия, учитывая обострение отношений с белорусским руководством, могут, не считаясь с потерями, вообще закрыть свои порты для транзита белорусского экспорта и импорта.

Белорусские чиновники считают: мол, не продадим удобрения в страны ЕС – перекинем дополнительные объемы в Китай и Африку, в страны ЕАЭС, благо покупателей у «Беларуськалия» достаточно. Но так ли легко перенаправить сложившиеся годами товаропотоки по новым маршрутам? Ведь тот небольшой подъем в экономике Беларуси, который произошел в апреле и мае, во многом обязан росту экспорта именно в страны ЕС. Экспорт сыпучих грузов и нефтепродуктов в ЕС стал главным драйвером роста белорусской экономики, так как по европейскому направлению он вырос почти втрое.

Если бы наша экономика работала эффективно и стабильно, то потеря 3% ВВП для нее и не была бы так тяжела. Но обремененные долгами белорусские флагманы, работающие на банковских и бюджетных подпорках, серьезно шатаются и без всяких санкций. Неслучайно Головченко в последней встрече с российским коллегой Мишустиным сетовал на то, что Запад хочет обвалить белорусскую экономику, поэтому сегодня надежда на реальную экономическую помощь только от России. А у российского руководства было и есть на уме одно: создать общие органы управления (естественно, под российским патронажем) и перейти на общую валюту (естественно, на российский рубль). По просачивающимся сведениям, переход на российское налоговое, а значит, и хозяйственное законодательство сторонами уже согласован. Тогда от белорусского суверенитета ничего не останется.

Даже с ресурсной поддержкой Москвы у Беларуси не та весовая категория, чтобы противостоять всему Западу. Хуже всего, что так или иначе экономические санкции всё больше будут затрагивать население Беларуси, снижать и без того невысокий его уровень жизни.

На мой взгляд, первое, что мы почувствуем ввиду сокращения экспорта, это ускоренная девальвация белорусского рубля. Для нас, белорусов, вновь наступают тяжелые времена, и снова встает непреходящая задача – во что бы то ни стало сохранить государственный и национальный суверенитет.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Юлія ЧАРНЯЎСКАЯ:
# «Ніколі не думала, што Кафка – рэальнасць…»

*Дачка заснавальніка TUT.BY Юрыя Зісера завяла ў «Фэйсбуку» спецыяльную старонку «Юлія Чарняўская пад арыштам», дзе са слоў адваката публікуе апошнія навіны з жыцця сваёй маці.*



«Маму арыштавалі 18 мая, амаль месяц таму, па «справе TUT.BY», – *гаворыць **Яўгенія Чарняўская**.* – Юлія Чарняўская знаходзіцца ў сваёй кватэры ўжо амаль месяц. У яе няма доступу да інтэрнэту, няма тэлефона і няма магчымасці атрымліваць і адпраўляць лісты. Таму я завяла старонку, дзе змагу публікаваць навіны пра яе, а вы зможаце сачыць за імі, пісаць ёй лісты, якія яна зможа прачытаць, калі выйдзе на волю. А адбудзецца гэта, я ўпэўнена, вельмі і вельмі хутка!»

*Вось што распавядае **Юлія Чарняўская** пра сябе:* «Дыктую гэтыя словы адвакату, таму што сама пісаць я не маю ні права, ні магчымасці. Вы ведаеце, што я пад хатнім арыштам. Гэта здарылася 18 мая, назаўтра пасля гадавіны па Юру. Дзякуй богу, я паспела ўсталяваць помнік і прынесці кветкі. На адкрыццё мемарыяльнай дошкі дзядулі, відома, не патрапіла. Цяпер, калі я хутка месяц у гэтай неабжытай кватэры, куды пераехала толькі за 6 дзён да арышту, я ўжо змагла ўстанавіць сабе нейкія правілы і распарадак дня.

Я шмат чытаю, гладжу сабаку, слухаю музыку і малюю. А яшчэ, нягледзячы на праблемы са здароўем, выходжваю ўсё больш крокаў па кватэры. Мне так шмат засталося ад Юры – і дыскі (хоць палову іх не бярэ музычны цэнтр, яны вельмі старыя), і сабака, падораны мне на дзень нараджэння ім жа. І нават норма крокаў, якой я заўсёды грэбавала, асабліва калі стала дрэнна са здароўем. І вось гэта яго крыло, якое ён так і не зняў з майго пляча, дае сілы жыць у гэтыя вельмі дзіўныя дні.

Я ніколі не думала, што Кафка – рэальнасць. Я разумею, што мне глыбока пашанцавала ў параўнанні з тымі, у каго арышты далёка не хатнія і ў сумленнасці каго я не сумняваюся. Я за іх малюся, – гэта тое, што я магу рабіць.

Мне пашанцавала ў тым, што ў мяне ёсць сябры. Яшчэ мне пашанцавала з дрэвамі пад акном. На Нямізе я настолькі забылася пра шапаценне дрэў, што тут мне спачатку здавалася, што пачынаецца дождж. Тут бываюць вельмі паўнакроўныя вясёлкі. І, калі прыгледзецца, з майго акна відаць кола агляду. Як называлася адна старая карціна – «Усюды жыццё».

Мне вельмі дапамагаюць вестачкі ад вас. Мне вельмі пашанцавала з вамі. Жывіце радасна. Дзякуй вам, дарагія…»

*Нагадаем, што па справе TUT.BY за кратамі знаходзяцца 15 чалавек.*

ПРАГНОЗЫ

# «Цэны на жыллё могуць вярнуцца да ўзроўню 2017 года…»

*Старшы аналітык кампаніі «Альпары Еўразія» **Вадзім Іосуб** прагназуе, як заходнія санкцыі могуць паўплываць на рынак нерухомасці ў Беларусі.*

*Эксперт адзначае, што на рынак нерухомасці ўплываюць два асноўныя фактары: даходы насельніцтва і крэдытаванне аперацый з нерухомасцю.*

– Падаецца відавочным, што даходы насельніцтва будуць зніжацца ў валютным эквіваленце (ад санкцый будзе залежаць толькі, наколькі моцна яны будуць зніжацца), – *распавёў Вадзім Іосуб realt.by.* – З крэдытаваннем таксама не ўсё добра. Яно ў апошнія месяцы ледзь-ледзь пашыралася, што дазволіла цане квадратнага метра злёгку адскочыць, падзенне спынілася.

Крэдытаваннем нерухомасці зараз займаюцца дзяржаўныя банкі, але і тыя – у дырэктыўным парадку. Дзяржава сказала – робіць, але без вялікага жадання, паколькі бачаць рызыкі.

*Паводле слоў аналітыка, каб крэдытаваць, патрэбна рэсурсная база, а сур'ёзная частка рэсурснай базы – уклады насельніцтва ў беларускай валюце.*

– Іх адток запаволіўся, але і прыток асаблівага няма, – *дадае аналітык.* – Гэта значыць, што рэсурсная база ў банкаў не пашыраецца, рызыкі ў сувязі з санкцыямі і ўнутранымі эканамічнымі праблемамі растуць, таму чакаць пашырэння крэдытавання я не стаў бы.

Таму сцэнарый у аптымістычным варыянце такі: цэны на жыллё стагніруюць на цяперашнім узроўні.

Пры пагаршэнні эканамічнай сітуацыі – пойдуць уніз. Бліжэйшая мэта – ніжэй 1150 долараў за квадратны метр, а гэта ўзровень сярэдзіны 2017 года. А з гэтай планкі пры пагаршэнні эканамічнай сітуацыі можна падаць і далей.

Сяргей ЗАБЛОЦКІ.

ПАСЛЯ СУДА

# «Зорку рок-н-рола» адправілі на «хімію» ў Віцебск

*Учора музыкант атрымаў у міліцыі накіраванне і да 17 чэрвеня павінен прыехаць у папраўчую ўстанову.*

Нагадаем, што **Ігар Банцэр** быў затрыманы па крымінальнай справе аб хуліганстве – за тое, што танцаваў перад міліцыяй без штаноў.

3 сакавіка суд Ленінскага раёна Гродна пачаў разглядаць справу Ігара Банцэра, і непасрэдна на працэсе той заявіў, што ў знак пратэсту распачынае сухую галадоўку, якую працягваў 16 сутак.

У рэшце рэшт Ігару прысудзілі 1,5 года «хіміі». На час апеляцыі ён знаходзіўся на свабодзе.

– На судзе стала вядома, што адбываць «хімію» па месцы жыхарства мне не дазволілі, таму быў у чаканні таго, куды ўсё-такі накіруюць, – кажа Ігар Банцэр. – Пры гэтым звяртаўся ў розныя інстанцыі, каб атрымаць адказ на гэтае пытанне: у Дэпартамент выканання пакаранняў МУС і яго абласное ўпраўленне. Затым – у крымінальна-выканаўчую інспекцыю Ленінскага раёна Гродна. Ніхто не мог патлумачыць, у якім стане мая справа.

Але ў рэшце рэшт 14 чэрвеня ў міліцыі мне далі накіраванне ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу №9 г.Віцебска. У мяне забралі пашпарт, выдалі часовае пасведчанне, і на працягу трох дзён я павінен туды прыехаць і стаць на ўлік.

**– Калі збіраецеся адправіцца?**

– Пакуль хачу напісаць знаёмым, каб па магчымасці дапамаглі ў Віцебску з працай па маім профілі. Я – зорка рок-н-рола і разумею, што працу складана будзе знайсці.

Калі ж сам не працаўладкуюся, то тады ўжо мне паступяць прапановы, ад якіх немагчыма будзе адмовіцца. Могуць адправіць на працу ў якую-небудзь сельскую гаспадарку, на лесапільню ці куды-небудзь яшчэ.

**– Пасля галадоўкі ў ізалятары ў вас моцна пахіснулася здароўе. Будзе магчымасць на «хіміі» знаходзіцца пад кантролем медыкаў?**

– Паабяцалі, што ў гэтым плане ніякіх праблем не прадбачыцца. Трэба будзе стаць на ўлік у паліклініку Віцебска па месцы часовай прапіскі, што і збіраюся адразу зрабіць. Здароўе трэба берагчы.

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:
# «Было б добра, каб Лукашэнка, Качанава ці Макей пабывалі на Акрэсціна»

*Палітык **Анатоль Лябедзька** адбыў 30-суткавы адміністрацыйны арышт. Яго затрымалі ў першы дзень суда над студэнтамі. Толькі 13 чэрвеня ён выйшаў на волю.*




«Я яшчэ не агледзеўся на волі да канца, таму, магчыма, маю скажонае ўяўленне пра трэнды. Крыху глянуў разважанні Макея. Было б вельмі добра, каб тыя, хто робіць ад імя Беларусі палітычныя заявы, проста наведалі сённяшнія ІЧУ і ЦІПы. Гэта было б вельмі цікава, бо тое, што там цяпер адбываецца, – гэта штодзённае парушэнне дзейнай Канстытуцыі.

Гэта суцэльныя катаванні людзей, калі сыходзіць з міжнародных стандартаў і Канстытуцыі. Менавіта там сёння людзям найбольш некамфортна і небяспечна. Гэта немагчыма нават параўнаць з беларускімі калоніямі і турмамі. Тым, хто прайшоў праз крымінальныя справы, нават прасцей. Так атрымалася.

Адзінае што – гэта дастаткова кароткі прамежак часу. Гэта дні ці месяцы, але яны заканчваюцца. Тым не менш умовы там найбольш цяжкія. Паколькі я маю пэўную «крэдытную гісторыю» з падобнымі ўстановамі, то скажу, што настолькі цяжкіх умоў не было ніколі. Нават у старым ЦІП, калі там не было рамонту, былі драўляныя нары.

Цяпер у двух- ці чатырохмясцовых камерах знаходзяцца па 15–19 чалавек. І ўвесь час так – ад пачатку да канца. Як можна на дзесяці квадратных метрах размясціць 15–16 чалавек? Гэта жудасна. Было толькі 4–5 дзён, калі была гарачая вада. Людзей змяшчаюць у камеры, дзе ўвогуле няма паветра, бо ўсё зачынена. Два дні я быў у карцары, не ведаю нават за што, там ніхто нікому нічога не тлумачыць. Няма ні падушак, ні навалачак, ні матрацаў – нічога.

Гэта хлусня, калі ў Канстытуцыі пішуць, што ўсе людзі ў нас роўныя. Насупраць ёсць камеры, дзе сядзяць тыя, хто б'е жонак, крадзе, п'е, рэальныя дармаеды, але ў іх ёсць усё неабходнае. Ім можна перадачкі, іх пускаюць на прагулкі. Але людзі, у якіх дзве-тры вышэйшыя адукацыі, якія ствараюць беларускі ВУП, робяць краіну больш заможнай, ужо нават не другога, а трэцяга гатунку.



Новаўвядзенне, што пяць разоў за суткі адбываецца шмон. Людзі спяць на падлозе, пад лавамі, пад умывальнікам, носам утыкаюцца ў прыбіральню, і іх двойчы будзяць за ноч – а гадзіне і а чацвёртай. Ты спіш вельмі кароткі час, і гэта нават немагчыма назваць сном.

Я проста хацеў звярнуцца і да Лукашэнкі, і да Качанавай, і да Галоўчанкі, і да Макея: вы проста зайдзіце ў гэтыя ўстановы, калі раптам не ведаеце, што адбываецца ў краіне. Мне здаецца, што да большасці ваеннапалонных у гісторыі так не ставіліся, як цяпер адны беларусы ставяцца да другіх. І прымушаюць ставіцца як да жывёлін. Тут пытанне элементарнай павагі да ворага. Моцны апанент не даходзіць да такога.

Я прайшоў ужо шмат і магу прайсці шмат, але 80% там тых, хто трапіў упершыню. На любым нармальным судовым працэсе я магу даказаць, што кожны, з кім я перасякаўся на Акрэсціна, а гэта каля 60 чалавек, ні ў чым не вінаваты. Яны не парушалі нават дзейнае заканадаўства. Нельга людзей кідаць за краты за тое, што на плоце ёсць налепка «Карнікам сюды не заходзіць», ці за маленькую «Пагоню» на ноўтбуку ці аўто. Было каля 10 спраў пра тое, што беларусы прыходзяць на тэрыторыю РУУСаў і што робяць? Чапляюцца да міліцыянтаў, хапаюць іх за рукі, лаяцца на іх. Якія смелыя людзі!

Нават сёння ранкам з Сашам Іўліным яшчэ рабілі разам зарадку. Ён чалавек пазітыўны, займаецца шмат фізічна. Трымаецца добра. Там выклікаюць практычна ўсіх, апроч мяне, на розныя сустрэчы. Я так разумею, што аператыўнік з раёна, дзе жыве асуджаны, праводзіць размову. Але прыязджаюць людзі і з іншых устаноў, яны, вядома, не прадстаўляюцца, але пэўная цікавасць да «Трыбуны» існуе. Цяжка сказаць, да чаго гэта прывядзе. Пакуль у Сашы проста адміністрацыйны арышт.

За гэты час я быў у адной камеры з Алесем Сілічам, Арцёмам Маёравым, Сашам Іўліным і Дзімам Руто. Усе пазітыўныя людзі. Там увогуле негатыўных не было, апроч так званых «коцікаў». Гэта людзі асацыяльнага ладу жыцця, якія кепска пахнуць, з вошамі. У нас такі быў чалавек, але яму падушылі блох.

Са мной быў саліст камернага хору філармоніі Дзяніс Іваноў, малады чалавек з капэлы філармоніі, былі будаўнікі, дзясятак айцішнікаў, інжынеры, рамеснікі, практычна ўсе з вышэйшай адукацыяй. Былі гераічныя людзі, як хлопец, які на роварах з бел-чырвона-белым сцягам хацеў праехаць увесь праспект Дзяржынскага, альбо чалавек, які са сцягам прайшоўся па Серабранцы. Каб была магчымасць, то я абняў бы бацькоў усіх гэтых людзей. Я быў у камеры самым старэйшым. 47 гадоў было аднаму шафёру, які працуе ў Літве, а асноўны масіў – 19–40 гадоў.

Я там працаваў. Мяне ж выключылі з працы над канстытуцыйнай рэформай, таму ў зняволенні я правёў больш за дзесяць фокус-груп, якія мне вельмі дапамаглі ў працы. Была някепская выбарка, бо былі не толькі мінчукі, але і людзі з Дзяржынска, Смалявіч, Браслава. Мы праводзілі вельмі добрыя палітычныя дыскусіі на тэму, якой Беларусь павінна быць у будучыні. Мы гаварылі на тэмы мовы, бяспекі і г.д. Мне былі вельмі ўдзячныя за такія дыскусіі. Я таксама атрымаў шмат усяго цікавага.

Не тое каб са здароўем праблемы. Мы праводзілі турніры не толькі па шахматах, але і па адцісканнях ад падлогі, дык я там яшчэ даваў фору маладым. У такіх умовах, калі яшчэ скразнякі бываюць, то ў мяне на трэці-чацвёрты дзень пацякло з носу. Было няпроста, мне не перадалі лекі, і гэта таксама парушэнне. Давалі нейкія таблеткі, ад якіх карысці не было. Былі ў іншых людзей моцныя праблемы, але магчымасці таго, каб вас агледзелі спецыялісты, амаль няма.

Здаецца, рыхтуецца вялікі працэс над тымі, хто пакідаў каментарыі аб трагедыі ў Баранавічах. Я бачыў шмат такіх людзей. Магчыма, у іх былі эмоцыі. Там усё можа скончыцца не толькі адміністратыўкамі. З суседняй камеры ўчора мусіла выйсці восем чалавек, але ім павесілі новыя пратаколы і далі па 13–15 сутак. І яны застаюцца там».

(NN.)

ГУЧНАЯ СПРАВА

# «Мы простымі словамі растлумачым, чаму абвінавачанне беспадстаўнае»

*У судзе над Бабарыкам рыхтуюцца да спрэчак.*




У судзе па справе «Белгазпрамбанка», адзін з фігурантаў якой – палітвязень **Віктар Бабарыка**, абвешчаны перапынак да 21 чэрвеня.

Скончылася судовае следства, на падрыхтоўку да спрэчак суд даў больш за тыдзень. Чакаецца, што з апошнім словам у судзе выступіць Віктар Бабарыка. У спрэчках сваю пазіцыю прадставіць абарона.

– *Гэтае абвінавачанне, якое зачытвалі шмат дзён, мы яго перакладзём на чалавечую мову і простымі словамі растлумачым, пра што яно і чаму яно не мае падстаў пад сабой,* – сказаў «Народнай Волі» адвакат Бабарыкі **Дзмітрый Лаеўскі**. – *Працэсуальна гэта першая, адзіная і самая грунтоўная магчымасць для таго, каб гэта зрабіць.*

Калі не будзе штучных перашкод, то абаронцы плануюць падчас перапынку сустрэцца з Віктарам Бабарыкам у СІЗА КДБ, «*хоць гэта было і застаецца вельмі складаным*».

– *У СІЗА КДБ фактычна за адзін працоўны дзень могуць трапіць да сваіх падабаронных 4–5 адвакатаў. І гэта пры ўмове, што кожны будзе размаўляць не больш за 1,5–2 гадзіны. Як правіла, гэтага часу недастаткова, каб выпрацаваць сумесную пазіцыю. Падчас следства гэта патрабавала вялікіх намаганняў,* – кажа адвакат.

Абароне не дазволілі рабіць копіі матэрыялаў справы, якая мае 122 тамы, а дазволілі толькі рабіць выпіскі.

– *Нягледзячы на гэта, для абгрунтавання пазіцыі ў нас ужо абсалютна дастаткова інфармацыі. Проста дачакайцеся 21 чэрвеня.*

### Не задаволены шэраг хадайніцтваў абароны Бабарыкі

Суд адмовіўся задаволіць шэраг хадайніцтваў абароны, у тым ліку – пра змену меры стрымання на хатні арышт, пра адмену арышту маёмасці Віктара Бабарыкі, пра выклік у суд у якасці сведак двух грамадзян Латвіі.

– *Канечне, мы не можам пагадзіцца з тым, што хадайніцтвы не задаволены. Былі падставы для таго, каб змяніць меру стрымання і адмяніць арышт на маёмасць,* – кажа адвакат Дзмітрый Лаеўскі.

Змяніць меру стрымання абарона прасіла суд ужо трэці раз. Раней пракуратура пярэчыла: маўляў, не прыйшоў час разглядаць гэтае пытанне, бо даследаваны не ўсе доказы.

– *То цяпер усе доказы даследаваны, якія яны хацелі і маглі прапанаваць суду. Але суд сказаў, што ў хадайніцтве адмоўлена, а прычыну не назваў. Калі мы абгрунтавалі пытанне, то нам павінны былі абгрунтаваць і адмову. Але гэтага не адбылося,* – кажа Дзмітрый Лаеўскі.

Адвакат таксама трэці раз заявіў хадайніцтва, каб у судзе дапыталі ў якасці сведак грамадзян Латвіі Аляксандра Растоўса і Аляксея Сціпанаўса, якія згадваюцца ў абвінавачанні як кіраўнікі нібыта падкантрольных Бабарыку замежных кампаній. Падчас судовага следства гэтых сведак не дапыталі. Суд сёння зноў адхіліў хадайніцтва абароны.

– *Даволі вялікі аб'ём абвінавачання завязаны на гэтых грамадзянах Латвіі. А рэальна ніхто не спрабаваў іх выклікаць ні падчас следства, ні падчас суда, ні следчыя, ні пракуратура, ні суд,* – сказаў адвакат.

Выклікаць сведак можна найпрост паводле міжнароднай дамовы.

### Што яшчэ прадставіла абарона?

Суд задаволіў хадайніцтва абароны і далучыў да матэрыялаў справы дакументы, што тычацца латвійскай кампаніі, якая нібыта, з гледзішча абвінавачання, з'яўляецца кампаніяй Віктара Бабарыкі. Гэтыя матэрыялы якраз зняпраўджваюць такую аргументацыю абвінавачання.

– *Там канкрэтна бачна, што латвійская кампанія мела заснавальнікам амерыканскую кампанію. І інфармацыі пра сувязь гэтай амерыканскай кампаніі ні з Віктарам Бабарыкам, ні з кімсьці іншым ніколі ў працэсе не гучала,* – кажа Дзмітрый Лаеўскі. – *Гэтыя дакументы, якія мы далучылі, не маюць аналагаў.*

Паводле слоў Дзмітрыя Лаеўскага, абарона здабыла дакументы ў арыгінале са штампамі і подпісамі службовых асоб Латвіі.

– *Мы аддаём іх суду, а пракурор кажа: а можа, вы гэтыя дакументы на вуліцы знайшлі. А пры гэтым бок абвінавачання спасылаецца на нейкія дакументы ў матэрыялах справы, на якіх няма ніводнага подпісу, ніводнай пячаткі. Гэта адзін прыклад таго, што адбываецца нешта па-за межамі разумення звычайнага, здаровага чалавека. Для Бабарыкі як высокаадукаванага і высокакультурнага чалавека гэта дзіка і дзіўна. Але ў яго яшчэ ёсць пачуццё гумару, і яно ратуе.*

### У чым абвінавачваюць Бабарыку?

17 лютага ў будынку суда Маскоўскага раёна Вярхоўны суд пачаў разгляд крымінальнай справы «Белгазпрамбанка», адзін з фігурантаў якой – палітвязень, былы прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Віктар Бабарыка.

Экс-банкіру інкрымінуюць атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры, арганізаванай групай, а таксама «адмыванне» даходаў, атрыманых злачынным шляхам, у асабліва буйным памеры (ч.3 арт.430 і ч.2 арт.235 КК).

Абвінавачанымі па справе таксама праходзяць шэсць топ-менеджараў «Белгазпрамбанка» і кіраўнік ТАА «Актыўлізінг».

Усе абвінавачаныя, акрамя Бабарыкі, прызналі віну ў поўным аб'ёме.

Справу «Белгазпрамбанка» пачалі 11 чэрвеня 2020 года, калі супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК правялі ператрус у офісе банка і затрымалі некалькі яго работнікаў.

18 чэрвеня, амаль за два месяцы да выбараў, Віктара Бабарыку разам з сынам Эдуардам арыштавалі, калі Бабарыка вёз у ЦВК подпісы за сваё вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты.

21 студзеня Генпракуратура Беларусі перадала справу супраць Бабарыкі ў Вярхоўны суд краіны. Разгляд справы ў Вярхоўным судзе азначае, што абскардзіць прысуд Віктар Бабарыка не зможа.

Адразу пасля затрымання Віктара Бабарыкі праваабаронцы прызналі яго палітвязнем. Экс-банкір лічыць свой пераслед палітычна матываваным.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ.**

ЭКОНОМИКА

## Лев ЛЬВОВСКИЙ:

# «На рубль будет воздействовать много непредсказуемых факторов»

*Снижение курса доллара на мировых рынках после многолетней стабильности вызвало горячие дискуссии как среди экономистов, так и в бизнес-среде. Впрочем, о возможности и необходимости обесценения доллара еще в первом квартале писали эксперты датского Saxo Bank.*

*О том, чем вызвана эта тенденция, и о том, как она влияет на курс белорусского рубля, в интервью Business&Economic Review рассказал **Лев Львовский**, старший научный сотрудник Центра экономических исследований BEROC.*

**– С чем связано обесценение доллара, которое сегодня наблюдается на международных рынках?**

– У экономистов есть такое выражение «проклятие доллара». Оно связано с тем, что доллар сильно отличается от других валют.

Обычно, если в стране происходит финансовый кризис, она хочет ослабить свою валюту, чтобы импорт стал дороже, а экспорт дешевле. Благодаря этому произведенные в стране товары становятся более конкурентоспособными на внешних рынках, импорт несколько сокращается, в результате чего улучшается торговое сальдо. Это удобный инструмент, который могут использовать почти все страны. Но есть определенные группы стран, для которых это затруднительно. В первую очередь речь идет о странах, которые объединены в одну валютную зону. Самым очевидным примером можно назвать зону евро. Когда в Греции случился кризис, она, возможно, и хотела бы девальвировать свою валюту, но поскольку ее валютой был евро, такой возможности у нее не было.

США находятся в еще более трудной ситуации. В последние десятилетия доллар стал мировой валютой. И когда происходит мировой финансовый или экономический кризис, экономические агенты из других стран начинают бежать в доллар. Они продают местные активы и местные валюты и покупают доллар или американские казначейские облигации, чтобы обезопасить себя и свои сбережения. Потому что все доверяют доллару из-за предсказуемо низкой стабильной инфляции и американским казначейским облигациям, которые считаются самыми безопасными.

В результате в кризис доллар часто только укрепляется по отношению к другим валютам. И если бы даже Федеральная резервная система (центральный банк США) захотела ослабить доллар в кризис, ничего не получилось бы. В этом и есть проклятие того, что валюта считается самой надежной в мире.

**– Для чего ФРС США могло бы понадобиться девальвировать доллар? Ради внешней торговли?**

– Да. Из-за особого положения доллара проблемы США противоположны проблемам, которые испытывают остальные страны. В то время как валюты всех стран ослабевают и их товары становятся дешевле, американские товары становятся дороже. Причем это происходит даже в том случае, если формально цены на них остаются прежними, на фоне подешевевших товаров из других стран. Например, если собранный в США Ford стоит 10 тысяч, аналогичную по классу Toyota в кризис можно приобрести уже не за 10, а за 9 тысяч.

**– Тем не менее сегодня происходит обесценение доллара.**

– В этот раз всё действительно происходит по несколько необычному сценарию. В США в связи с пандемией были приняты беспрецедентные меры по вливанию ликвидности в экономику. И сейчас в США инфляция составляет около 2,5 процента. Некоторые экономисты даже заговорили о том, не слишком ли это высокий показатель. Но Федеральная резервная система считает, что всё хорошо. В США о таком и мечтать не могли. Они много лет боролись с тем, что инфляция у них ниже таргетированных показателей.

**– Почему это плохо?**

– При слишком низкой стабильной инфляции у экономических агентов снижается мотивация к инвестированию, а при продолжении трендов страна даже может столкнуться с дефляцией.

**– Отражаются ли эти мировые тенденции на экономике Беларуси?**

– Если говорить об укреплении белорусского рубля в отношении доллара, то здесь играют роль другие факторы. В первую очередь – неожиданный рост экспорта. Причем обычно бывает, что при серьезном росте экспорта импорт также растет, поскольку при производстве белорусских экспортных товаров используется значительная доля импортных сырья и комплектующих. На сей раз экспорт вырос значительно, а импорт – не очень, что помогло улучшить сальдо и укрепить курс рубля. Причины этого на сегодняшний день не вполне понятны.

**– Можно ли прогнозировать, как будут развиваться события в дальнейшем?**

– Если говорить о мировых тенденциях, то ослабление доллара вызвано вполне конкретными причинами, и оно, конечно, не означает, что доллар падает в пропасть. Насколько мне известно, новых серьезных вливаний ликвидности в США не запланировано, а те вливания ликвидности, которые воздействовали на доллар в прошлом году, являются рекордными и вряд ли будут повторены в том же объеме. В случае, если экономика США не будет выходить из рецессии быстро, возможно некоторое дополнительное смягчение денежной политики, которое приведет к удешевлению доллара. Если восстановление будет идти быстро, то доллар начнет укрепляться.

Что касается белорусского рубля, то на него будет влиять множество различных факторов: мировые цены на экспорт таких наших важных позиций, как нефтепродукты, лес, калийные удобрения, возможность введения серьезных экономических санкций в отношении Беларуси и России, перспективы получения новых кредитов и другие. В целом на белорусский рубль будет воздействовать большое число непредсказуемых факторов.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Вольга БЕЛЯЎЦОВА:

# «Пад ляжачы камень вада не цячэ…»

*«Народная Воля» пацікавілася, якія шанцы ў грамадзянскай ініцыятывы па адмене закона «Аб масавых мерапрыемствах».*

Нагадаем: ініцыятыва, у якую ўваходзяць звычайныя грамадзяне Беларусі, прапануе цалкам адмяніць закон «Аб масавых мерапрыемствах», а таксама адміністрацыйную і крымінальную адказнасць за яго парушэнне, бо «*цяпер людзі абмежаваны ў праве мець свае думкі, перакананні і свабоду іх выказваць*».

Рэалізацыя праекта прадугледжвае некалькі крокаў. Першы – фарміраванне ініцыятыўнай групы, якая будзе збіраць подпісы. Далей – падача дакументаў у Цэнтрвыбаркам для атрымання афіцыйнага статусу. Пасля гэтага – збор 50 тысяч подпісаў, падача законапраекта ў парламент і праца з дэпутатамі па прыняцці закона.

– На гэты момант мы знаходзімся на пачатку шляху, – тлумачыць «Народнай Волі» сябра ініцыятыўнай групы **Вольга БЕЛЯЎЦОВА**. – Склад ініцыятыўнай групы сфарміраваны, але ўзніклі пытанні па ўзгадненні ўстаноўчага сходу. Мне падаецца, што гэта будзе вырашана.

Закон «Аб масавых мерапрыемствах», як нам падаецца, груба парушае права на свабоду меркаванняў і перакананняў, і мы бачым, што сёння ў краіне творыцца. Цяпер выхад на вуліцу пагражае не толькі адміністрацыйнай адказнасцю, але затым можа быць і крымінальная. І пра гэта патрэбна не толькі заяўляць, а крычаць на ўвесь голас!

**– Вы верыце ў нейкі рэальны вынік?**

– Натуральна, я не асабліва веру ў тое, што той склад парламента, які сёння ёсць, пачуе нас і адразу адменіць закон «Аб масавых мерапрыемствах». Але, калі нам дазволяць правесці сход і падаць дакументы ў Цэнтрвыбаркам, то нейкі працэс ужо будзе адбывацца.

Пасля збору подпісаў маем права падаць законапраект у парламент, і прадстаўнікі ініцыятывы могуць атрымаць трыбуну ў парламенце.

Магчыма, мяне назавуць вялікім аптымістам, але думаю, што нават такое магчыма. Мой асабісты досвед гаворыць: нярэдка тое, што падаецца немагчымым на старце, аказваецца рэальнасцю ў выніку. Ніхто ж дакладна не ведае, як будуць разгортвацца падзеі праз паўгода ці праз год. Таму тое, што забаронена сёння, заўтра могуць адмяніць. У гэтым накірунку і трэба нешта рабіць, пад ляжачы камень вада не цячэ.

**– Колькі кандыдатаў пагадзіліся збіраць подпісы?**

– На сённяшні дзень у спісе каля 250 чалавек. Паводле заканадаўства, павінна быць як мінімум 100 чалавек, таму ў нас – з запасам.

Як ужо казала, зараз для нас галоўнае пытанне – арганізаваць устаноўчы сход згодна з заканадаўствам.

**Віктар ШПАК.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Раззлаваўшы пракурора, маладзіца цяпне гора

34-гадовая мінчанка здала кватэру памочніцы пракурора аднаго са сталічных раёнаў, а потым запатрабавала пакінуць жытло. Пракуратура ўзбудзіла супраць гаспадыні крымінальную справу, бо яна «жадала парушыць правы, свабоды і законныя інтарэсы грамадзянкі выключна ў сувязі з яе пасадай». Жанчына можа быць пакарана пазбаўленнем волі на два гады.

Перш чым пакласці думкі на паперу,
Я агаворку гэткую зраблю:
Калі ты маеш дом або кватэру,
Дык можаш звацца кумам каралю!
Загадваць не дазволена нікому,
Як скарыстоўваць можаш ты жытло:
Захочаш – жаніхоў вадзі дадому
(Абы суседзям кепска не было,
Таму табе шумець патрэбна ў меру,
Каб скардзіцца суседзі не пайшлі);
Захочаш – у арэнду здай кватэру,
Каб мець зусім не лішнія рублі;
Захочаш – дык скасуй дамову потым,
Як арандатар твой не па нутру, –
Няхай начуе, так сказаць, пад плотам
Або к другому йдзе гаспадару.
Прынамсі, гэтак думалі мы ўчора.
А сёння ўжо расклад зусім другі.
Памочніца самога пракурора
Уласнікам «уставіла мазгі».
У горадзе памочніца здымала
Кватэру – дазваляў яе бюджэт.
Плаціла гаспадыні (і нямала),
І ўсё было, здавалася, як след.
Ды раптам не паладзілі жанчыны.
Адна з іх паказала на парог:
– Сыходзь з маёй кватэры!
А прычыны
Нам потым пракурор агучыць змог:
Маўляў, службістка
Выступала ярка,
Калі ў судах судзілі бунтароў,
А гаспадыня (бо сама бунтарка)
Рашыла сапсаваць, як кажуць, кроў –
Жытла яе пазбавіла за гэта.
Памочніцы парушаны правы!
«Хадзіцьме пад артыкулам» кабета,
Хоць быў дасюль артыкул «нежывы».
Вядома, гаспадыня цяпне гора –
Яе «гуманны суд» сагне ў дугу.
Памочніцу ж, самога пракурора
Я зразумець, па праўдзе, не магу.
Кватэр цяпер здаецца да халеры,
Удостатку свабоднага жытла.
Ці ж маладзіца іншае кватэры
Знайсці без шуму-гаму не магла?
Магла. Але, як кажуць, стала ў позу:
Ды я, маўляў, амаль што пракурор,
Мяне ўспрымаць патрэбна як пагрозу –
Такі ў грамадстве зараз каленкор;
І ты пасмела выкінуць з кватэры
Мяне, як бульбы прэлае мяшок, –
Нахабна паказала мне на дзверы?
Ды я цябе сатру на парашок!
Кашмарны сон пабачыш ты наяве,
Калі цябе раструшчу, як арэх!
Памочніца, вядома, неўзабаве
Падтрымку атрымала ад калег.
Яны ўзбудзілі справу…

***

Мне цікава:
Калі Феміда ў нас для ўсіх адна,
Дык ці была б узбуджаная справа,
Каб працавала швачкаю яна?

### А курыць можна…

– Ты, хлопчык, вельмі некультурны:
Акурак кінуў міма урны,
І ён прахожым вочы коле.
Чаму вас вучаць толькі ў школе?

### Пра сон

Пачуў я ад жанчыны маладой:
– Заўжды любіла спаць на жываце:
Ніхто не парушае твой спакой,
І бюст высокі грудзі не гняце.
Цяжарнай стала – спала на баку.
Так правяла я ночку не адну.
Нарэшце нарадзіла я дачку.
Цяпер, бадай, і стоячы засну…

### Паспела расказаць

Мужчына робіць спробу памірыцца,
Аднак яму пярэчыць маладзіца:
– Я не магу, бо ўсім, хто навакол,
Паспела расказаць, што ты – казёл…

АКТУАЛЬНА!

# Куды рухаецца Праваслаўная царква Беларусі?

*Навіна пра адстаўку архіепіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага Арцемія выклікала розгалас і ў царкоўным асяродку, і ў свецкіх СМІ. Упершыню ў гісторыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі звальненне архірэя выклікала столькі пытанняў. І хоць у рашэнні Сінода РПЦ запісана «па стане здароўя», усе ведаюць, што сапраўдная прычына – пропаведзі архіепіскапа з асуджэннем гвалту і рэпрэсій пасля прэзідэнцкіх выбараў. Хто стаяў за рашэннем маскоўскіх сінадалаў і які знак яно нясе БПЦ? З просьбай патлумачыць сітуацыю мы звярнуліся да гісторыка **Анатоля СІДАРЭВІЧА**.*


Архіепіскап Арцемій.


Уладыка асвячае бібліятэку імя Л.Геніюш пры Каложскай царкве.

**– Спадар Анатоль, 8 чэрвеня за адстаўку Арцемія прагаласаваў мінскі Сінод, а ўжо назаўтра гэта рашэнне было зацверджана маскоўскім Сінодам пад кіраўніцтвам патрыярха Кірыла. Што можа азначаць такая паспешлівасць?**

– Думаю, ніякай паспешлівасці тут няма. Хутка (можна сказаць – маланкава) летась з мінскай кафедры аж на Кубань перавялі экзарха Паўла, а «справа» архіепіскапа Арцемія доўжылася без малога 10 месяцаў. Калі ўладыка публічна выступіў супраць гвалту над людзьмі? У жніўні мінулага года. Калі прынята рашэнне? У чэрвені сёлета. Так што думалі доўга.

**– Выведзены за штат за свае грамадскія погляды святар Аляксандр Шрамко ў леташнім інтэрв'ю «Народнай Волі» гаварыў, што звальненне епіскапа – вельмі складаная царкоўная працэдура. Як аказалася – даволі простая…**

– Сапраўды, пазбавіць епархіяльнага архірэя пасады вельмі цяжка. Звычайна яго пераводзяць на іншую кафедру. Калі епіскапу спаўняецца 75 гадоў, ён піша прашэнне аб «почислении на покой», але гэта не азначае, што яго аўтаматычна адпраўляюць у адстаўку. Нярэдка маскоўскі Сінод просіць уладыку працягваць служэнне. Прашэнне аб адстаўцы падаецца і тады, калі епіскап не можа выконваць свае абавязкі з прычыны хваробы. Каб звольніць епіскапа імгненна, нават не рашэннем Сінода, а патрыяршым указам, патрэбна, каб ён здзейсніў нейкі крымінальны ці амаральны ўчынак, пра які стала вядома шырокай грамадскасці. Нават калі епіскап пачынае прапаведаваць ерась ці выступаць супраць царкоўных канонаў, яго перш ушчуваюць, спрабуюць паставіць на «шлях ісціны». Уладыку Арцемію да 75-годдзя яшчэ далекавата, ерасі ён не прапаведаваў, супраць царкоўных парадкаў не выступаў, са здароўем у яго вострых праблем няма. Яго выступленне супраць гвалту над мірнымі пратэстоўцамі цалкам адпавядала хрысціянскім каштоўнасцям. Яно магло не задаволіць толькі тых, хто не баіцца праліць людскую кроў, хто з'яўляецца прыхільнікам сілавога вырашэння грамадскіх і палітычных праблем.

**– Дык вы мяркуеце, што ініцыятарам звальнення Арцемія выступіла свецкая ўлада?**

– Думаю, што Царкве было прад'яўлена патрабаванне пазбавіць архіепіскапа Арцемія пасады без пераводу на іншую (скажам, у Расіі) кафедру. Можна меркаваць, што патрыярх Кірыл, чыім вучнем быў уладыка Арцемій, цягам дзевяці месяцаў не даваў згоду на пазбаўленне яго кафедры. Пэўна, гродзенскага архірэя схілялі да «пакаяння» за прамоўленае ў жніўні 2020 года або ўгаворвалі напісаць прашэнне. Відаць, і «пакаяння» дасягнуць і прашэнне можна было б атрымаць, калі б ва ўлады меўся кампрамат на ўладыку Арцемія. Магчыма, у сітуацыі, калі ні «пакаяння», ні прашэння цягам доўгіх месяцаў выцягнуць з архіепіскапа не ўдалося, афіцыйны Мінск чымсьці прыгразіў царкоўным уладам і вызначыў ім апошні тэрмін. Толькі так можна тлумачыць, чаму хадайніцтва мінскага Сінода аб адстаўцы гродзенскага архірэя было задаволена на наступны дзень. Падкрэслю: пытанне аб «почислении на покой» уладыкі Арцемія было адзіным пытаннем, якое 9 чэрвеня разглядаў маскоўскі Сінод. Гэта пасяджэнне ўвойдзе ў гісторыю РПЦ.

**– Беларускія епіскапы дружна (праўда, не аднагалосна) прагаласавалі за адстаўку Арцемія: з пятнаццаці трынаццаць. Архіепіскап усё ж меў аўтарытэт і сярод святароў, і сярод вернікаў. Дык чаму так?**

– Па-царкоўнаму кажучы, гэта грэх сергіянства. Калі бальшавікі скарацілі жыццё дэмакратычна выбранаму патрыярху Расійскай праваслаўнай царквы Ціхану (памёр у 1925-м), калі яны кінулі за краты


Гучыць пропаведзь з асуджэннем гвалту. Жнівень 2020 года.

незгаворлівага месцаблюсціцеля патрыяршага пасаду Пятра, яго намеснік мітрапаліт Сергій у 1927 годзе стаў на шлях супрацоўніцтва з уладай. Якія б зверствы ні чынілі бальшавікі, Сергій маўчаў. Царква пры ім забыла, што такое смутканне («печалование») аб бедах народа. У 1943 годзе, калі Сталін замест Расійскай стварыў Рускую праваслаўную царкву, Сергій быў пастаўлены патрыярхам.

**– Немаўчанне ўладыкі Арцемія было тым больш чутнае на фоне іншых епіскапаў, якія як вады ў рот набралі.**

– Так, ён парушыў правіла «маўчаць», выступіў супраць сергіянства, якое з'яўляецца неафіцыйнай дактрынай РПЦ. Вядома, мінскі Сінод сам адстаўку архіепіскапа Арцемія не разглядаў бы без сігналу з Масквы. А маскоўскія сінадалы нічога лепшага не прыдумалі, як узяць на сябе функцыю кансіліуму і прычынай «почисления на покой» назваць стан здароўя архірэя. І дружненька прагаласавалі «за» (на дыстанцыйным пасяджэнні). А вось у Беларусі знайшоўся архірэй – епіскап Пінскі і Лунінецкі Сцяфан, – які не захацеў падтрымаць сваё маскоўскае начальства. А яшчэ адзін архіепіскап (праўда, ён «на покое») устрымаўся. Цяпер я думаю: які «падарунак» паднясуць улады і абодва сіноды ўладыку Сцяфану? Яму ўжо 77 гадоў…

**– Чытаючы пастанову Сінода РПЦ, я звярнуў увагу на такую акалічнасць: архіепіскапу Арцемію нават не падзякавалі за шматгадовую службу. Чаму такое стаўленне за 43 гады службы?**

– Пэўна, маскоўскія сінадалы на чале з патрыярхам былі так раздражнёны ўпартасцю Арцемія, што вырашылі не дзякаваць яму «за понесенные труды», хоць пры «почислении на покой» гэта звычайная формула. Не дзякуюць епіскапам толькі тады, калі іх адпраўляюць у адстаўку за дагматычныя, кананічныя ці маральныя правіны. Такім чынам, гродзенскага архірэя абразілі. Такое хамства, думаю, можна растлумачыць хіба што нежаданнем сінадалаў раздражняць афіцыйны Мінск.

**– А што такое епіскап «на покое»? Які яго статус? Ці можа ён вярнуцца на епіскапскую кафедру?**

– У РПЦ маецца палажэнне аб матэрыяльнай і сацыяльнай падтрымцы свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў, работнікаў рэлігійных арганізацый, а таксама членаў іх сем'яў. У тым палажэнні ёсць раздзел аб забеспячэнні архірэяў «на покое». Калі епіскапа адпраўляюць у адстаўку, яму месцам пражывання вызначаецца, як правіла, манастыр. Пры магчымасці ўлічваюцца і пажаданні ўладыкі. Сінод вырашыў не пасяляць Арцемія ў манастыр. Месцам яго жыхарства вызначаны Мінск. Мне давялося чытаць, што ў сталіцы ва ўладыкі ёсць (смешна сказаць) аднапакаёвая кватэра... Архірэй «на покое» можа выконваць абавязкі ігумена манастыра ці настаяцеля парафіі. У такім разе клопат пра жыллё, матэрыяльны дабрабыт уладыкі і стан яго здароўя кладзецца на манастыр ці парафію. Наўрад ці нейкі манастыр або нейкая парафія ў Мінскай епархіі будуць мець уладыку Арцемія сваім ігуменам або настаяцелем.

**– Асабліва калі ўлічыць, што кіруе Мінскай епархіяй той жа мітрапаліт Веніямін.**

– Хутчэй за ўсё, Арцемія чакае лёс экзарха Філарэта, які апошнія гады знаходзіўся пад пільным кантролем, быў жорстка абмежаваны ў кантактах, служыў у дамовай царкве. Хіба што Арцемій адмовіцца ад абслугі. У такім разе замест наглядчыкаў у падрасніках і апостальніках за ім будуць сачыць людзі з вядомага ведамства... На кафедру ўладыка Арцемій зможа вярнуцца толькі тады, калі ў Беларусі запануюць дэмакратычныя парадкі.

**– На яго месца ў Гродне накіраваны епіскап Слуцкі Антоній. З якім заданнем мітрапаліта Веніяміна ён туды адправіўся, як вы лічыце?**

– Не думаю, што Антонія на гродзенскую кафедру адправіў ці заданне яму даў Веніямін, бо і самога Веніяміна з «шараговых» епіскапаў, мінуўшы сан архіепіскапа, у мітрапаліты і на пасаду экзарха ўзвялі не патрыярх Кірыл і не маскоўскі Сінод, а нехта іншы... Сінадалы і падумаць не маглі пра такі круты ўзлёт мала каму вядомага епіскапа, у якога за плячамі не самыя прэстыжныя духоўныя навучальныя ўстановы і не самая паспяховая епархія. Што да ўладыкі Антонія, то яго называюць епіскапам «с комсомольским приветом». Хачу памыліцца, але думаецца, што прыказка «новая мятла па-новаму мяце» стасуецца і да яго.

**– Архіепіскап Арцемій не выходзіў на плошчу, як праваслаўны святар у Гомелі, не трапляў на суткі, як каталіцкі святар з Расонаў. Ён проста ў сваёй пропаведзі асудзіў гвалт і звярнуўся да гвалтаўнікоў: спыніцеся! З асуджэннем гвалту выступалі і каталіцкія епіскапы (напрыклад, Юрый Касабуцкі). Ці азначае гэта, што ўлада возьмецца і за іх?**

– Ватыкан ужо ахвяраваў аднаго епіскапа – мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча. І хоць ён, у адрозненне ад мітрапаліта Філарэта, застаецца публічным чалавекам і служыць у розных святынях, стаўленне многіх беларускіх католікаў да Папы рымскага стала адмоўным. Не думаю, што ён прынясе ў ахвяру яшчэ аднаго епіскапа. Гэта не паслужыла б аўтарытэту Ватыкана.

**– Калі епіскап Веніямін стаў мітрапалітам і патрыяршым экзархам, вы пісалі, што ён малітвеннік, не публічная асоба і г.д. Аднак жа новы мітрапаліт выступае па БТ ў палітычных праграмах, забараніў выкананне гімна «Магутны Божа» ў храмах, следам за ўладай называе бел-чырвона-белы сцяг калабаранцкім… Сёння вы яго як ахарактарызавалі б?**

– На жаль, ён аказаўся слабым грэшным чалавекам, сергіянцам.

**– У святле апошніх падзей напрошваецца пытанне: куды рухаецца Праваслаўная царква ў Беларусі?**

– Я даўно кажу, што РПЦ найбольш кампраметуе яе епіскапат. Закаснелы, ён палохае моладзь. Царква зноў старэе. Апрача таго, адны праваслаўныя хрысціяне адварочваюцца ад сваёй Царквы, ідуць да католікаў і пратэстантаў, другія застаюцца праваслаўнымі без Царквы (маецца і такі феномен), але асноўная частка царкоўнага народу застаецца ў Беларускай праваслаўнай царкве Маскоўскага патрыярхату. Праўда, гэты народ падзяляецца на тры групы. Першая – сталыя прыхаджане, другая – захаджане, якія бываюць у царкве зрэдку, і трэцяя – абрадавернікі, якія масава прыходзяць свяціць ваду, свечкі, вярбу, яйкі і садавіну. Сярод сталых прыхаджан, як я разумею, маюцца дзве групы: цвёрдае праваслаўнае ядро, якое арыентуецца на Маскву, і не менш цвёрдае ядро, якое думае пра аўтакефалію, але не самаабвешчаную, а дадзеную Усяленскім Патрыярхам. Нават у неспрыяльных умовах яны працуюць на несергіянскае праваслаўе, якое прапаведуе ўладыка Арцемій. Магу сказаць, што гэта пад іх уплывам былы экзарх Павел здзейсніў сапраўды хрысціянскі ўчынак: у жніўні мінулага года пайшоў да зняволеных.

**Міхась СКОБЛА.**

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# «Вероятность сравнима с падением метеорита»

## Что думает ИТ-бизнес про отключение SWIFT?

SWIFT (Society for Worldwide Interbank Financial Telecommunications) – международная система обмена информацией и совершения платежей. Она позволяет финансовым учреждениям (банкам, биржам, брокерским конторам, инвестиционным компаниям и так далее) во всем мире безопасно отправлять и получать информацию о финансовых операциях. Беларусь является пользователем системы SWIFT с 1994 года.

Как отключение SWIFT повлияет на операционную деятельность ИТ-бизнеса? Вот что ответили на этот вопрос *dev.by* представители некоторых ИТ-кампаний.

**Николай КУРАЕВ, CEO Science Soft:**

– Во-первых, отключение от SWIFT – процесс небыстрый, у компаний-экспортеров будет время к этому подготовиться.

Во-вторых, отключение для всей страны потребует введения санкций на уровне Совета Безопасности ООН – для этого нужно доказать, что Беларусь разрабатывает оружие массового поражения, спонсирует международный терроризм, проводит геноцид или что-то в этом роде – процесс непростой и небыстрый.

Более вероятен процесс отключения от SWIFT некоторых банков, по которым будут доказаны активности из пункта «во-вторых».

Таким банкам будет сложно работать с международными транзакциями (они будут пытаться работать, например, через российских посредников), внутренние операции с BYN, операции с российскими рублями, юанями будут проходить, но со сложностями. Большинство клиентов, работающих на международных рынках, из таких банков уйдут, в результате банки будут терпеть убытки, придется их поддерживать из госбюджета.

В самом плохом и крайне маловероятном случае – если отключат всю страну от SWIFT, – то, если не будет прямых санкций в отношении самих банков, обслуживающих экспортеров, вариантов будет несколько:

а) платежи будут проходить по телексу – долго и мучительно, примерно неделю;

б) наши банки будут работать через российские банки-корреспонденты;

в) если ни один из вышеперечисленных вариантов не сработает, то скорее всего будет перевод сотрудников-резидентов Беларуси в состояние ИП в третьей стране либо сотрудника иностранного офиса белорусской компании с уплатой налога в соответствующей стране и подачей налоговой декларации в Беларуси с указанием дохода за границей и уплаченных там налогов.

В некоторых случаях, возможно, придется доплатить налог в Беларуси, поскольку статус налогового резидента Беларуси у таких сотрудников будет сохранен. Необходимость такой доплаты будет зависеть как от уровня налогообложения в стране, где будут уплачены налоги, так и от наличия договора между Беларусью и этой страной об избежании двойного налогообложения.

При движении в сторону последнего варианта проще будет вывезти сотрудников в другую страну. Однако этот вариант мне кажется крайне маловероятным.

**Михаил ЧУПРИНСКИЙ, совладелец Rozum Robotics:**

– Я не рассматриваю такой возможности. Вероятность отключения SWIFT сравнима с падением метеорита, поэтому не вижу смысла что-то планировать на этот случай. Последствия для бизнеса тоже сопоставимы с последствиями от метеорита – это будет конец для очень многих.

**Кирилл ГОЛУБ, венчурный инвестор, сооснователь Angels Band:**

– Как на ИТ-бизнес повлияет отключение SWIFT? Головные компании за рубежом либо зарубежные клиенты не смогут перечислять деньги в Беларусь, соответственно, сотрудникам нельзя будет (нечем будет) платить. Фактически это остановит оборот финансов.

**Вера РЕШЕТИНА, сооснователь датского стартапа Workee с командой разработки в Беларуси:**

– Отключение SWIFT парализует работу всех экспортоориентированных ИТ-компаний, то есть почти всех. Это очень серьезный шаг, но и ситуация в Беларуси беспрецедентная.

**Антон ТИТОВ, директор Spiral Scout:**

– Это невероятный сценарий. Отключить SWIFT – всё равно что пройтись напалмом: выжжет всё, и частников тоже. Это повлечет за собой мгновенный вывод капитала из страны. Хотя как это можно осуществить логистически, пока не ясно.

Сразу напрашивается релокейт, но в эпидемию переехать будет сложно. И всё равно я думаю, что если нам скажут «через месяц «свифта» не будет», то к этому времени здесь не останется айтишников. Не знаю как, но люди придумают, как уехать, даже в ковид. Либо придумают, как проводить деньги через Россию. Но зачем это будет нужно ЕС, всё равно не ясно. В общем, фантастика.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Президенты США и России поговорят о мире и войне на берегу Женевского озера на вилле La Grange



Встреча на высшем уровне между президентом США **Джо Байденом** и президентом России **Владимиром Путиным** состоится на величественной вилле La Grange.

Швейцарская сторона подобрала для организации общения лидеров сильнейших стран мира шикарную резиденцию. Она находится на берегу Женевского озера и называется La Grange. Президенты США и России планируют обсудить множество тем, в частности вопрос войны и мира во многих горячих точках, а также экономические проблемы. Не менее важной темой станет будущее отношений двух стран в связи со строительством газового коридора «Северный поток – 2». Он стал одной из самых уязвимых тем дипломатии США и РФ.

Армейские и полицейские подразделения уже оцепили все входы и выходы из парка вокруг виллы. Также по периметру заблаговременно построили забор высотой более двух метров. На заборе есть, по сведениям местных СМИ, табличка с надписью: *«По особому случаю парк закрыт для посещения с 8 по 18 июня включительно»*.

Швейцарское Министерство иностранных дел не стало инсайдером этой информации, а просто подтвердило просочившиеся в прессу данные о месте проведения саммита.

Вилла La Grange была построена в XVIII веке. Она считается одним из самых престижных для отдыха мест на Женевском озере. Из расположенной на холме виллы открывается великолепный вид на озеро. Она окружена не менее прекрасным парком с вековыми деревьями и ухоженными лужайками. Большую часть времени вилла закрыта для посетителей. Ее открывают в очень редких случаях для значимых приемов и мероприятий.

ЗНАЙ НАШИХ!

# Приложение белорусов победило в престижной премии Apple Design Awards

Apple назвала победителей ежегодной премии Apple Design Awards. В номинации «Визуал и графика» победило приложение Loona белорусских разработчиков. Приложение помогает настроиться на здоровый сон «путем воздействия на эмоциональный фон». Разработкой занята команда под руководством **Андрея Янчуревича** и **Дмитрия Дорина**. Также в сооснователях значатся **Сергей Гончар** и **Евгений Невгень** – они прославились благодаря приложению MSQRD, которое купил Facebook.

Также в этой категории Apple отметила игру китайской студии miHoYo Limited под названием Genshin Impact.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# На пенсию – в 68 лет

*Немецкие пенсионеры выходят на пенсию по возрасту и после накопления взносов в возрасте 65 лет и 10 месяцев. Это те, кто родился в 1956 году. К 2029 году возраст выхода на заслуженный отдых увеличится.*

«На пенсию в Германии в 68 лет» – таковы расчеты Министерства экономики. Но пока это лишь предложение. Его обсуждают в кулуарах власти.

Идея увеличить пенсионный возраст в разгар предвыборной кампании не очень радует политиков. Практически никто из них не высказался на эту деликатную для избирателей тему.

Но постепенно возраст придется повышать, как считают эксперты. Они уточняют, что это необходимо, поскольку немецкие граждане становятся всё старше и старше. Между получателями пенсий и теми, кто на них зарабатывает, должен быть баланс. Пока что мнение экспертов не поддержали в СДПГ, левой партии и профсоюзах.

Научно-консультативный совет при Федеральном министерстве экономики предлагает повысить пенсионный возраст до 68 лет. Такое решение следует согласовать уже вскоре. Реализовать его необходимо до 2042 года.

По мнению экспертов, пенсионный возраст нельзя отделить от динамики продолжительности жизни. Вместо простой математики они предлагают *«динамическую связь между пенсионным возрастом и продолжительностью жизни»*. Если ожидаемая продолжительность жизни снизится, пенсионный возраст также может уменьшиться. Тогда не будет необходимости выходить на пенсию 68 лет, а объемы запасов для социальных выплат увеличатся. Однако есть и второй резерв – увеличение количества населения и рост количества работающих. Пока что в Германии наблюдается позитивная динамика. Поэтому политики не спешат принимать кардинальные меры.

В Министерстве экономики настаивают, что это только рекомендация. Эксперты совета – независимые от власти специалисты. Они просто указывают на проблему. Но они не предлагают политических и прочих путей ее решения.

# Машинисты Deutsche Bahn планируют бастовать из-за зарплат

*Пару дней назад немецкий профсоюз машинистов поездов (GDL) объявил, что работники Deutsche Bahn собираются начать серию забастовок. Такая мера связана со срывом переговоров о зарплате с администрацией компании.*




Глава GDL **Клаус Везельски** уточнил, что профсоюз уже провел четыре совещания, однако достичь компромисса с руководством железнодорожного оператора не удалось.

*«Мы хотели провести еще одни переговоры и прийти к соглашению, но Deutsche Bahn снова отказывается»*, – говорит Клаус Везельски. В связи со сложившейся ситуацией он призвал членов профсоюза объявить забастовку.

Пока что GDL не называет конкретные даты забастовок и не уточняет, какие именно службы и в каких регионах будут задействованы в акции. Но в любом случае такое решение может стать серьезным ударом как для пассажиров, так и для предприятий (ведь отказаться выходить на маршруты могут и машинисты товарных поездов). Особенно болезненной эта ситуация может стать для туристической сферы, так как сейчас постепенно открывается доступ к путешествиям в другие регионы и немцы с удвоенным энтузиазмом покупают билеты на поезда.

Представитель пресс-службы Deutsche Bahn в комментарии *DPA* заявил, что руководство компании предложило профсоюзу зарплатный пакет, эквивалентный тому, который был согласован между правительством и госслужащими в прошлом году. Это соглашение гарантировало повышение заработной платы на 3,2% за 28 месяцев.

Кроме того, в сентябре прошлого года Deutsche Bahn договорилась о повышении заработной платы на 1,5% с гораздо более крупным Союзом железнодорожников и транспорта, который представляет около 215.000 сотрудников компании. Но GDL, имеющая репутацию сторонника жесткой линии переговоров, отказалась участвовать в этом этапе совещания.

В последний раз профсоюз объявлял забастовку в 2015 году. Машинисты организовали серию пикетов, которая растянулась на несколько месяцев. Завершился этот цикл самой продолжительной забастовкой железнодорожников в истории Германии. Шестидневный простой привел к хаосу в транспортной системе и обошелся экономике страны примерно в полмиллиарда евро.

# Полицейский скандал: 20 сотрудников обвиняются в экстремизме

*Немецкие полицейские попали под следствие по обвинению в участии в онлайн-чатах праворадикальной направленности и обмене нацистской символикой. Прокуратура Франкфурта начала расследование в отношении 20 сотрудников полиции, в числе которых – сотрудники элитных подразделений спецназа.*

Сотрудники прокуратуры и Управления по борьбе с преступностью земли Гессен провели обыски в домах и на рабочих местах шести подозреваемых. *«Предполагается, что 17 обвиняемых распространяли материалы, разжигающие расовую ненависть, а также изображения, связанные с бывшей национал-социалистической партией»*, – говорится в совместном заявлении ведомств о расследовании.

Трое полицейских обвиняются в воспрепятствовании правосудию, *«потому что они были участниками соответствующих чат-групп и при этом не прекратили общение в них и не применили санкции к участникам»*.

Все обвиняемые – мужчины в возрасте от 29 до 54 лет. Один из них уже вышел на пенсию, остальные еще работают в органах.

История со спецназовцами-радикалами не единственный случай проявления экстремизма в рядах немецкой полиции. Так, в сентябре прошлого года офицеры в самой густонаселенной земле Северный Рейн – Вестфалия обнаружили, что их коллеги распространяют в мессенджерах контент, который земельная прокуратура позже назвала *«отталкивающей ультраправой пропагандой»*.

Далее в июле того же года прокуратура объявила об аресте бывшего полицейского и его жены, подозреваемых в отправке электронных писем с угрозами политикам и другим общественным деятелям по всей Германии.

Осенью 2020-го глава МВД **Хорст Зеехофер** заявил о проведении исследования о проявлениях расизма в рядах полиции. Эту процедуру должны были проводить комплексно вместе с изучением трудностей работы и быта сотрудников органов.

Также в мае этого года министр обороны распорядился о частичном роспуске элитного отряда спецназа KSK из-за проявлений правого экстремизма.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

## Максім АЧАРЭТНІ:

# «Не ўяўляю, як зрабіць страйк медыкаў»

*Былы галоўны ўрач 3-й дзіцячай бальніцы Мінска, рэаніматолаг **Максім Ачарэтні** пераехаў ва Украіну пасля таго, як быў звольнены са сваёй пасады ў красавіку.*

**– Беларускія пацыенты страцілі яшчэ аднаго вядомага доктара высокай кваліфікацыі. Што паўплывала на рашэнне пераехаць у іншую краіну? Ці была пасля звальнення магчымасць працаваць у Беларусі паводле спецыяльнасці?**

– У мяне фактычна першы дзень працы ва Украіне. Я ўладкаваўся ў шматпрофільную прыватную клініку Odrex у Адэсе, працую анестэзіёлагам-рэаніматолагам. На жаль, мая родная краіна мяне не прыняла ў якасці анестэзіёлага-рэаніматолага. Калі мяне звальнялі, было сказана, каб я не шукаў працу ў дзяржаўных медыцынскіх установах Беларусі. Па змаўчанні, у прыватных цэнтрах нібыта мог працаваць. Але з прыватнымі медыцынскімі ўстановамі праблема – яны баяцца браць на працу звольненых урачоў. Я меў гутаркі ў прыватных клініках, і вялікі дзякуй ім за гэта. Яны прапаноўвалі вельмі невысокую заработную плату, якая мяне катэгарычна не задавальняла. Я думаю, што яны запрашалі мяне, каб зрабіць сабе плюсік у карму на будучыню, але агучвалі такія лічбы заробку, каб я адмовіўся.


euroradio.fm (Courtesy Photo)

Мне 48 гадоў, я пачаў працаваць у медыцыне з 1989 года. Адразу не атрымалася паступіць у медыцынскі інстытут, і год працаваў санітарам, потым паступіў, падчас вучобы працаваў медбратам. Скончыў інстытут па спецыяльнасці «артапед-рэўматолаг», але праз год перaспецыялізаваўся ў анестэзіёлага-рэаніматолага, бо гэтая праца больш падабалася. Цяпер шкадую, дарэчы. Бо праца артапеда не менш цікавая, я гэтага не разумеў, калі быў маладым доктарам.

За ўсе гэтыя гады ў медыцыне я ніколі не думаў пра тое, каб з'ехаць з краіны. Сям'я, на жаль, засталася ў Беларусі, пакуль у іх няма магчымасці пераехаць. Калі мяне запрашалі, меркавалася, што я магу прыехаць з сям'ёй. Але так склаліся абставіны, што не можам мы ўсе разам быць.

**– Давайце згадаем абставіны вашага звальнення. Вы казалі раней у інтэрв'ю, што падставай стаў ваш подпіс за прэтэндэнта ў прэзідэнты Віктара Бабарыку падчас выбарчай кампаніі. Напэўна, было шмат чыннікаў. Раскажыце, як гэта адбывалася?**

– Подпіс за Бабарыку, магчыма, быў фармальнай прычынай. Справа ў тым, што не толькі мяне пазбавілі працы. У адзін дзень са мной звальняліся чатыры ці пяць галоўных урачоў. За адно і тое ж. Проста пра іх так актыўна не распаўсюджвалася інфармацыя ў сацыяльных сетках. І да мяне былі звальненні. Ведаю, што намеснік галоўнага ўрача Бальніцы хуткай дапамогі па адной з такіх прычын быў звольнены. Ён суперспецыяліст у сваёй спецыяльнасці, не толькі адміністратар. Тым не менш чамусьці Мінску ён не спатрэбіўся. На мой погляд, гэта бяда.

**– Вы не звальнялі сваіх падначаленых, якія ўдзельнічалі ў пратэстах, бралі на працу тых дактароў, якіх звольнілі з іншых шпіталяў…**

– Не звальняў і браў на працу. Рустам Ізатулін, мой добры сябра, у адзін дзень са мной напісаў заяву на звальненне. Сказаў: «Я ведаю, што цябе звальняюць, я ў такой сітуацыі працаваць не буду. Ты апошні дзень працуеш, падпішы маю заяву на звальненне». Я падпісаў, і ён разам са мной і сышоў. Андрэй Вітушка – доктар высокага класа, рэаніматолаг-неанатолаг. Падаецца, ён адзіны абараніў кандыдацкую на беларускай мове. *(Максім Ачарэтні ўзяў на працу звольненых Ізатуліна і Вітушку. – **Рэд.**).*

Былі затрыманні і супрацоўнікаў маёй былой бальніцы. Я прааналізаваў статыстыку. У кожнай медыцынскай установе быў прыкладна аднолькавы працэнт затрыманых медыкаў. 3-я дзіцячая – невялікая, з каля 450 чалавек маіх падначаленых трое былі затрыманы. Мы адразу пісалі хадайніцтвы ў суды. Спачатку людзей надоўга не садзілі. Наша медсястра ноч сядзела, у панядзелак быў суд, пасля якога яе вызвалілі, але з вялікім штрафам. Потым пачалі саджаць на 15 сутак са штрафам, потым на 30 сутак са штрафам, цяпер крыміналку шыюць. Як жа так?

Максімальна, чым мог, я дапамагаў. Званілі мне з розных арганізацый, каб звольніў іх. А на якой падставе звальняць? Я пытаўся, ці будзе мне нейкі загад, каб звальняў. Не, гэта вы будзеце звальняць, адказвалі. Я нікога не буду звальняць, гаварыў. Яны хочуць рукамі кіраўнікоў на месцах усё зрабіць. Нехта вядзецца на гэта. А я за сваёй рэпутацыяй сачу. Я лічу ганьбай так рабіць.

**– Паведамлялася, што за аднаўленне вас на працы збіраўся змагацца калектыў бальніцы. Чаму не атрымалася? Ці магло атрымацца?**

– Калі я прыйшоў развітвацца, яны сказалі, што напісалі ліст, каб мяне не звальнялі, і падпісалі яго. Я папрасіў не даваць лісту ходу. Навошта ім яшчэ мае праблемы, ім працаваць і жыць у Мінску. На маю просьбу мне аддалі гэты ліст з подпісамі. Сказалі, каб рабіў з ім, што захачу.

**– Надзея Пятроўская – былая загадчыца аддзялення РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі, якая звольнілася на знак пратэсту пасля таго, як зьнялі з пасады яе дырэктара, а пазней была вымушана з'ехаць у Чэхію, – казала ў інтэрв'ю, што яна лічыць: быў шанц на самым пачатку ў калектываў адстаяць і дырэктара РНПЦ кардыялогіі, і яе цэнтра, калі быў бы сапраўды масавы страйк урачоў на самым пачатку. Ці згодны вы?**

– Цяжка меркаваць, але мне не ясна, як можна зрабіць страйк медыкаў. Калі яны не пойдуць працаваць, гэта, безумоўна, выклікае незадаволенасць насельніцтва. Можна адкласці планавыя аперацыі і шпіталізацыі, але на які час? Людзям патрэбна медыцынская дапамога. Неадкладную дапамогу зусім ніяк не адменіш. Людзі не зразумелі б, мне так падаецца. Я не ўяўляю, як зрабіць страйк медыкаў. Кажуць, што гэта магчыма, але сам механізм мне незразумелы.

**– Вы не толькі спецыяліст высокага класа, які за доўгія гады працы ўратаваў сотні дзіцячых жыццяў, але і спрактыкаваны менеджар. Вы павінны ведаць, як прымаюцца рашэнні на больш высокім узроўні, і ведаць пра настроі медыцынскага чынавенства. Ці ёсць там усведамленне катастрафічнай сітуацыі для медыцыны ў бліжэйшай будучыні, калі працягнуцца звальненні, рэпрэсіі, ад'езд дактароў?**

– Гэта ідзе зверху. Я абсалютна дакладна ведаю, што рашэнне аб маім звальненні не ішло ад майго непасрэднага начальства, камітэта аховы здароўя. Я дакладна ведаю, што гэта ішло зверху і яшчэ вышэй. А хто? Магу толькі меркаваць, што з Міністэрства аховы здароўя, а можа, і вышэй, напрыклад ад Наталлі Іванаўны, якая курыруе сістэму аховы здароўя. На мой погляд, Піневіч, якія б ні былі яго чалавечыя якасці, спецыяліст-адміністратар найвышэйшага класа, наўрад ці ён пайшоў бы на такія захады.

**– Што вам вядома пра настроі калег у Беларусі? Як шмат медыкаў думаюць пра той крок, які зрабілі вы?**

– Статыстыкі не вяду. З размоў вынікае, што вельмі многія хочуць з'язджаць. Інтэрны, маладыя ўрачы, як толькі заканчваюць універсітэт, адразу садзяцца за мовы – польскую, нямецкую, англійскую, і як толькі ёсць магчымасць – шукаюць працу. У Польшчу і Нямеччыну беларускіх лекараў бяруць з задавальненнем. Здаюць іспыты і прыступаюць да працы. З майго былога аддзялення, якім я кіраваў, два чалавекі з'ехалі ў Нямеччыну працаваць, адзін – у ЗША.

**– Чым адрозніваецца ўкраінская сістэма аховы здароўя ад беларускай?**

– Не магу параўноўваць, бо я зусім нядаўна тут. Магу меркаваць, што карупцыйны складнік ва Украіне вялікіх маштабаў. Настолькі прынята, што нікога не засмучае, што доктару трэба грошы пакласці ў кішэню. Шчыра кажучы, мяне гэта шакіруе. У Беларусі такога няма.

**– Раскажыце пра вашу новую працу. Ці на такой вы самай пасадзе, з тым жа заробкам?**

– Не. Насамрэч цяпер я займаюся сваёй любімай працай. Я анестэзіёлаг-рэаніматолаг. Гэта тое, што я люблю. Калі я быў галоўным урачом, шчыра кажучы, мне гэтая праца не моцна падабалася. Таму, калі мне сказалі, што не хочуць працягваць са мной працоўныя адносіны, я не засмуціўся. Я засмуціўся таму, што мне сказалі, што я не магу працаваць у дзяржаўных установах краіны. Гэта было непрыемна, дрэнна.

**– Ці разглядаеце вы сваю працу ў Адэсе як часовую?**

– Так. Я настроены вярнуцца. Калегі пажадалі мне добрай дарогі, падтрымліваюць. Я звярнуў увагу, што цяпер баяцца многія. Некаторыя баяліся нават сустракацца са мной, як мяне звольнілі. Але не ўсе. Я не крыўджуся, бо такая сітуацыя, што сапраўды страшна.

**– Калі стала вядома пра звальненне, у сацыяльных сетках вельмі шмат людзей, бацькоў дзяцей, якім вы дапамаглі, пісалі вам словы падтрымкі. Што б вы сказалі вашым былым пацыентам і іх сем'ям?**

– Каб не перажывалі. Засталося шмат калег, не горшых за мяне. Проста атрымалася так, што я быў дастаткова медыйным і вядомым чалавекам, але поўна ціхіх добрых дактароў. Не перажывайце, ёсць каму працаваць. Пакуль што. Хоць я ведаю, што ёсць нейкі негалосны спіс лекараў, якія не даспадобы сістэме аховы здароўя. Спіс вельмі спрактыкаваных, дасведчаных лекараў. І нібыта ёсць рызыка, што пройдуць звальненні ўжо не адміністратараў, не галоўных лекараў ці начмедаў, размова ідзе пра шараговых урачоў. Развітвацца будуць, як і са мной, па згодзе бакоў.

**– Што дае вам аптымізм цяпер?**

– У мяне пакуль аптымізму няма, на жаль. Я толькі пераехаў у чужую краіну і сумую па радзіме. Спадзяюся, што крыху асвоюся, бо ўкраінцы вельмі добразычлівыя, ветлівыя і прыемныя людзі. Адэса ўвогуле горад шматнацыянальны. І людзі на працы вельмі добрыя. Думаю, што адаптуюся.

**Ганна СОЎСЬ.**

(Радыё Свабода.)

АТЫ-БАТЫ

# «С использованием сирийского опыта»

*Летом в Беларуси пройдет ряд учений с участием российских войск*

С июня по сентябрь на территории Беларуси и России будут *«отрабатываться практические действия органов военного управления и войск»*. Определены полигоны в Беларуси и России. Об этом рассказал газете «Красная Звезда» командующий войсками Западного военного округа РФ **Александр Журавлев**. По сути, всё лето будут проходить учения перед стратегическими учениями «Запад-2021», намеченными на 10–16 сентября. С использованием «сирийского опыта».



*«Современный бой, и это подтвердил сирийский опыт, требует от командиров смекалки, введения противника в заблуждение, изыскания возможностей для того, чтобы заставить его действовать в выгодном для нас ключе,* – объяснил генерал-полковник Журавлев. – *Поэтому повышенное внимание уделяется опережающей готовности систем управления и всех видов обеспечения, а также скрытному развертыванию группировки».*

Как информирует *people.onliner.by*, эти вопросы российские военные совместно с белорусскими коллегами планируют отработать на «Запад-2021». А сейчас готовятся к проведению учений по подготовке к этим масштабным учениям.

*«Проведен ряд штабных переговоров и командно-штабных тренировок с привлечением оперативных групп штабов различного уровня,* – сообщил командующий. – *Определены полигоны на территории России и Беларуси, на которых будут отрабатываться практические действия органов военного управления и войск. Идет рекогносцировка и подготовка учебно-материальной базы. С июня по сентябрь будет проведен комплекс специальных учений по всем видам обеспечения, три из которых проведем совместно с Вооруженными силами Республики Беларусь».*

Он уточнил, что особое внимание будет уделяться совместному решению задач подразделениями войск радиационной, химической и биологической защиты, инженерных войск, материально-технического обеспечения и военной полиции.

МАРШРУТЫ

# Граница на замке

*Посол России в Беларуси **Евгений Лукьянов** рассказал, что Россия пока не будет открывать наземную границу с Беларусью для свободного передвижения*



*«Право пересечения границы регламентировано соответствующим постановлением, пока оно отменено не будет,* – цитирует дипломата *tass.ru*, – *Здесь главный начальник госпожа Анна Попова, наш главный санитарный врач».*

Напомним, что сейчас в Россию из Беларуси могут въезжать граждане России и обладатели российского вида на жительство.

Кроме того, в Россию могут направляться сотрудники белорусских компаний для работы вахтовым методом, а также те, кто едет на лечение, к близким родственникам или на похороны.

ДЫПКУР'ЕР

# «У французскага амбасадара добрае пачуццё гумару...»

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі **Нікаля дэ Буян дэ Лакост** сустрэўся са старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Ігарам Барысавым**. «Сустрэча была прысвечана палітычным і сацыяльным пытанням, у прыватнасці дзейнасці партыі ў кантэксце поствыбарнага крызісу», – распавялі ў французскай амбасадзе. «Народная Воля» пацікавілася закуліснымі падрабязнасцямі размовы.*



– Для мяне гэта было знаёмства з Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам Францы, – *распавёў «Народнай Волі»* **Ігар Барысаў**. – Сустрэча атрымалася даволі цёплай і цікавай. Мы размаўлялі і на французскай, і на беларускай мовах. Праўда, французскую я амаль забыў, а вось французскі амбасадар паставіў сабе на мэту канчаткова вывучыць беларускую на працягу бліжэйшага паўгода. І ён, між іншым, вельмі добра практыкуецца! Таму я сябе адчуваў вельмі ўтульна – размаўляў на беларускай мове, і Нікаля дэ Лакост цалкам мяне разумеў і падтрымліваў размову: адказваў мне на беларускай мове з элементамі рускай. А яшчэ, дарэчы, пасол Францыі ведае польскую мову, бо доўгі час жыў і вучыўся ў Польшчы.

Мы размаўлялі пра бягучую сітуацыю ў Беларусі, дзяліліся ўражаннямі, шукалі магчымыя шляхі выхаду, меркавалі, якія сцэнарыі могуць быць верагоднымі ў бліжэйшы час.

Нікаля дэ Буян дэ Лакост – вельмі абазнаны чалавек, ён доўгі час працаваў у Расіі, разумее сутнасць рускага менталітэту, выдатна ведае польскія настроі, бо застаў часы змен і трыумфу «Салідарнасці». Яму ёсць з чым параўнаць і супаставіць беларускую сітуацыю.

На мой погляд, ён даволі дакладна адчувае тое, што адбываецца цяпер ў Беларусі. Французскі дыпламат разумее, што вельмі многія сёння выступаюць супраць дзеючай улады, але разам з тым не ясна, за што канкрэтна гэтыя людзі выступаюць. Пакуль адказу на гэтае пытанне няма. Падчас выбарчай кампаніі 2020 года некаторыя палітычныя арганізацыі засталіся крыху ўбаку ад усіх працэсаў, праймерыз не атрымаўся... А можа, яно і добра, што з'явіліся новыя лідары і асобы, на якіх адгукнуўся народ. Тым не менш сёння трэба ўсім ведаць, што прапануецца грамадству. І калі мяняць лад жыцця краіны, то ўсе мусяць разумець, якія рэформы плануецца праводзіць, ад чаго трэба пазбаўляцца, а што захаваць. Бо ў любым выпадку будуць незадаволеныя. Пра гэтыя рэчы мы таксама размаўлялі.

На жаль, новы французскі амбасадар не здолеў адчуць ту атмасферу, якая панавала на працягу першых трох месяцаў пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў, бо ён прыехаў пазней.

Наша сустрэча прайшла за кубкам добрай кавы, размова была каля паўтары гадзіны. Выйшаў я задаволены – у спадара Нікаля дэ Лакоста добрае пачуццё гумару і крытычнае стаўленне да інфармацыі, якую ён атрымлівае з розных крыніц. Ён супастаўляе інфармацыю, аналізуе і задае вельмі вострыя пытанні, каб адначасова і прамацаць суразмоўцу, і паспрабаваць знайсці адказы, бо сёння на шмат якія пытанні ніхто не можа адказаць, мы можам толькі разважаць і будаваць версіі. Але размова была вельмі цікавая!

**Марына КОКТЫШ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Генадзь ВІНЯРСКІ: «Рэвалюцыю» пакуль не вярнулі...»

*Кіраўнік прыватнага выдавецтва «Кнігазбор» распавёў «Народнай Волі» пра тое, як яны трымалі амаль пяцімесячную блакаду.*



Нагадаем: 13 студзеня ў офіс «Кнігазбору», а таксама дадому да **Генадзя Вінярскага** прыйшлі прадстаўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў.

Забралі некаторыя рэчы, кнігі, у выдавецтва быў арыштаваны рахунак, што паставіла «Кнігазбор» у дастаткова складанае становішча – немагчыма было плаціць друкарні, зарплату работнікам.

*«Нават калі грошы прыходзяць, мы імі не можам карыстацца, а значыць, фактычна не можам працаваць,* – распавядаў пасля гэтага «Нашай Ніве» кіраўнік «Кнігазбору». – *У выдавецтве чатыры супрацоўнікі – цяпер яны працуюць «павольна і няўпэўнена», прыходзяць у офіс праз дзень і перабіваюцца адным камп'ютарам. Адзінае, што мы яшчэ можам, – адпускаем кнігі, якія выйшлі раней.*

*А ў цэлым чакаем нейкага рашэння. Мы напісалі ў ДФР ліст з запытам пра тэрміны, але на яго яшчэ не адказалі. Не ведаем, што будзе далей».*

Генадзь Вінярскі казаў, што аб прычынах такой зачысткі можа толькі здагадвацца, але адзначыў, што зачышчаецца менавіта *«беларускамоўнае асветніцкае поле».*

Дададзім, што праз два дні пасля візіту ў «Кнігазбор» ДФР прыйшоў таксама да кнігараспаўсюдніка **Алеся Яўдахі** і выдаўца **Андрэя Янушкевіча**.

І вось зараз стала вядома, што «Кнігазбор», «Янушкевіч» і Knihi.by разблакіраваны – яны сінхронна атрымалі паведамленні пра магчымасць ізноў карыстацца банкаўскімі рахункамі.

*«146 дзён фінансавай блакады «Кнігазбор» вытрымаў!* – радасна паведаміў кіраўнік выдавецтва. – *Рахункі разблакіравалі. Днямі супрацоўнікі атрымаюць першы заробак у 2021 годзе».*

– Усё гэта адбылося даволі нечакана і ціха, – кажа Генадзь Вінярскі. – Сітуацыя застаецца не да канца зразумелай, бо афіцыйнага паведамлення з Дэпартамента фінансавых расследаванняў няма. Так што нават не вядома, закрыта справа альбо яна працягваецца.

Думаю, што працягваецца, бо тое, што ў нас забралі падчас вобшуку, да гэтага часу застаецца ў ДФР: камп'ютарная тэхніка, тэлефон, 558 кніг «Рэвалюцыя» Віктара Марціновіча і 150 налепак.

**– Як вы даведаліся, што рахунак разблакіраваны?**

– Праз інтэрнэт-банкінг.

**– Самі за тлумачэннямі ў ДФР не звярталіся?**

– Пакуль не звяртаўся, пачакаю каля двух тыдняў. А раптам разблакіроўка рахунка – проста выпадковасць? Хаця разблакіравалі і рахункі «Янушкевіча» і Knihi.by, таму, магчыма, і быў на гэта нейкі агульны загад.

**– Амаль пяць месяцаў у выдавецтва быў заблакіраваны рахунак. Як гэты час выжывалі?**

– Амаль усе нашы работнікі маюць яшчэ і іншыя крыніцы даходу, таму зусім без капейкі не засталіся. Хто індывідуальны прадпрымальнік, хто пенсіянер... Але фактычна жылі без грошай.

**– Якія далейшыя планы?**

– Будзем раскручваць працу. Трэба паглядзець, хто з заказчыкаў яшчэ не збег ад нас , якія кнігі запатрабаваны. Будзем аднаўляць сувязі.

**Алесь СІВЫ.**

УЗНАГАРОДА

# «За вернасць прафесіі быў заплачаны высокі кошт...»

*Журналісткі **Кацярына Бахвалава** (Андрэева) і **Дар'я Чульцова**, якія зараз знаходзяцца за кратамі, сталі лаўрэатамі міжнароднай прэміі Courage in Journalism Awards – за адвагу ў журналістыцы.*




Нагадаем, што ў лютым 2021 года суд Фрунзенскага раёна Мінска асудзіў Кацярыну і Дар'ю на 2 гады калоніі агульнага рэжыму за «арганізацыю і падрыхтоўку дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак».

15 лістапада 2020 года ў доме на «Плошчы Перамен» у Мінску яны вялі стрым з разгону мірнай вулічнай акцыі памяці забітага пратэстоўца Рамана Бандарэнкі.

Андрэева і Чульцова сваёй віны не прызналі. Яны прызнаны палітзняволенымі.

Зараз муж Кацярыны **Ігар Ільяш** паведаміў, што журналісткі сталі лаўрэатамі міжнароднай прэміі за адвагу ў журналістыцы – Courage in Journalism Awards. Гэтую прэмію ўручае Міжнародны фонд жанчын, якія працуюць у СМІ.

*«Мы ведалі пра выбар журы загадзя,* – распавёў Ігар. – *Я паведаміў пра гэта Каці ў тэлеграме яшчэ два тыдні таму, неўзабаве пасля яе прыбыцця ў гомельскую калонію. Потым яна распавядала ў лісце, што гэтая навіна стала для яе велізарным і вельмі прыемным сюрпрызам: яна зведала шмат станоўчых эмоцый, на якія звычайна не разлічваеш у турме. Кацэ была па-сапраўднаму расчулена.*

*Калі Каця толькі пачынала свой шлях у журналістыцы, яна марыла калі-небудзь папрацаваць у «гарачай кропцы» і стаць лаўрэатам гэтай прэміі.*

*«Але калі «гарачая кропка» здарылася ў маім горадзе, ні пра якія ўзнагароды я і не думала... У галаву нават не прыйшло, што мы праяўляем нейкую «адвагу ў журналістыцы». Проста працуеш, як машына: зняць тое, сказаць тое, ісці, стаяць, сувязь з рэдакцыяй...»* – *прызнавалася Каця ў лісце.*

*Летам-восенню 2020 года яна думала толькі пра тое, каб зрабіць сваю працу добра, данесці да грамадства праўду пра тое, што адбываецца. І ў яе гэта атрымалася. І яна ганарыцца гэтым.*

*Так, за вернасць прафесіі быў заплачаны высокі кошт. Але Каця перакананая, што ўсё гэта было не дарма».*

**Віктар ШПАК.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Пашкадавалі?

*Дыскваліфікаваны беларускі лёгкаатлет можа зноў выступаць на спаборніцтвах.*




У эфіры «Беларусь 5» вядучая **Ганна Любянкова** паведаміла, што рэкардсмен Беларусі па скачках у вышыню **Дзмітрый Набокаў** апраўданы ў справе аб прымяненні допінгу.

Нагадаем, што ў верасні 2020 года Набокаў быў дыскваліфікаваны на 2 гады, у яго пробе знайшлі забаронены прэпарат фурасемід. Дзмітрый – чэмпіён Еўропы 2017 года сярод спартсменаў да 23 гадоў і рэкардсмен Беларусі.

Як аказалася, Набокава не апраўдалі, а яму проста скарацілі тэрмін дыскваліфікацыі. Такім чынам, спартсмен атрымаў правы выступаць на міжнародных спаборніцтвах з 10 чэрвеня.

Будзем спадзявацца, што за сем месяцаў дыскваліфікацыі ў 25-гадовага хлопца быў час падумаць пра свае ўчынкі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РАКУРС

# «Люди еще больше хотят хлеба и зрелищ...»

*Телеведущая **Люция Геращенко** заметила, что самые большие деньги зарабатываются именно во времена кризиса.*



«Казалось бы, парадокс, но самые большие деньги я как ведущая зарабатывала в экономические кризисы 2008-го и 2011-го годов, – *отметила Люция в своем «Инстаграм».* – Люди хотели есть и развлекаться вопреки любому здравому смыслу. Потом в Москве закрыли все казино, и меня часто приглашали вести розыгрыши призов и развлекательные программы туда, и в «закрытых» казино люди проигрывали столько, как будто жили последние дни.

Сейчас происходит примерно то же самое. Только люди еще больше хотят хлеба и зрелищ. Хотят забыться. Хотят эмоций. Без масок и тормозов. Лететь, облетая континенты.

Время безумных трат и сумасшедших заработков. Обожаю такое время. В мутной воде хорошо рыбу ловить...»

АЛІМПІЯДА-2021

# Гульні ў масках…

*Як вядома, Алімпіяда павінна была прайсці яшчэ ў мінулым годзе. На жаль, пандэмія ўнесла свае карэктывы і ў жыццё, і ў спорт, таму адмяняліся многія спаборніцтвы. Алімпіяда не стала выключэннем.*




Такім чынам, Гульні перанеслі на год, і цяпер яны пройдуць у Токіа з 23 ліпеня па 8 жніўня. Трэба адзначыць, спаборніцтвы павінны стаць самымі маштабнымі па колькасці відаў спорту (33) і катэгорый (339).

Першапачаткова планаваўся ўдзел 10–12 тысяч спартсменаў, аднак з-за пандэміі іх колькасць скароціцца. Таксама прынята рашэнне, што Алімпіяда пройдзе без замежных балельшчыкаў. Не выключана, што і японскія гледачы таксама не змогуць патрапіць на трыбуны, калі эпідэміялагічная сітуацыя не палепшыцца. Канчатковае рашэнне будзе прынята да канца гэтага месяца.

Калі ж японцам дазволяць назіраць за спаборніцтвамі з трыбун, то трапіць на іх будзе не так проста. Напрыклад, балельшчыкі будуць абавязаны прадаставіць сертыфікаты аб наяўнасці адмоўнага ПЦР-тэста на каранавірус. Пры гэтым тэсціраванне трэба прайсці не больш як за сем дзён да спартыўнага мерапрыемства, на якое набыты квіток. Непасрэдна пры ўваходзе ўсіх абавяжуць паказаць сертыфікат аб адсутнасці COVID-19. А вось у дачыненні да тых, хто прайшоў вакцынацыю, гэтыя патрабаванні прымяняцца не будуць.

Праўда, для гледачоў праходжанне тэсціравання на каранавірус зробяць бясплатным.

Падчас наведвання спартыўных аб'ектаў гледачам неабходна насіць маскі, плануецца забараніць на стадыёнах ежу і напоі. Пасля завяршэння мерапрыемства аматараў спорту будуць выводзіць са стадыёнаў па сектарах, каб зменшыць рызыку захворвання.

Увогуле, за два месяцы да старту Алімпіяды пытанняў застаецца шмат. Усё-такі большасць насельніцтва Японіі, медыкі і нават палітыкі супраць правядзення гэтых спаборніцтваў. У краіне і так няпростая эпідэміялагічная сітуацыя, а Алімпіяда можа толькі дадаць праблем. Напрыклад, генеральны сакратар кіруючай у Японіі Ліберальна-дэмакратычнай партыі Тасіхіра Ніка лічыць, што, калі сітуацыя па каранавірусе будзе пагаршацца і правядзенне Алімпійскіх гульняў стане надзвычай цяжкім, магчымы і варыянт адмены спаборніцтваў.

Беларуская каманда таксама рыхтуецца да алімпійскіх стартаў, зараз спартсмены заваёўваюць ліцэнзіі на ўдзел у Алімпіядзе. Праўда, не паспелі Гульні яшчэ пачацца, а ўскосным чынам наша краіна ўжо адзначылася скандальнымі гісторыямі.

Як вядома, у снежні мінулага года Міжнародны алімпійскі камітэт забараніў кіраўніку Нацыянальнага алімпійскага камітэта Аляксандру Лукашэнку ўдзельнічаць ва ўсіх мерапрыемствах арганізацыі, уключаючы Алімпійскія гульні.

26 лютага гэтага года НАК Беларусі ўзначаліў Віктар Лукашэнка, але МАК не прызнаў гэтае абранне Віктара Лукашэнкі кіраўніком Нацыянальнага алімпійскага камітэта, а таму і яму забаронена наведваць Алімпіяду.

Акрамя таго, Японія закрывае сваю паветраную прастору для беларускіх авіякампаній пасля вымушанай пасадкі 23 мая пасажырскага самалёта Афіны–Вільнюс у суправаджэнні знішчальніка.

Зразумела, што ўсё гэта моманты, якія да спорту маюць ускоснае дачыненне. Спартсмены рыхтуюцца паводле сваіх планаў. Не вядома, які беларускай камандзе даведзены медалёвы план на гэтыя Гульні, але на россып медалёў разлічваць, хутчэй за ўсё, не даводзіцца. Такія часы…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СОВЕТ

# Что нужно знать о норме сахара в крови

*Контроль за уровнем глюкозы в крови – самый верный способ выявить диабет на ранних стадиях. Рассказываем о норме сахара и о том, как ее контролировать.*

Глюкоза – это топливо для клеток. Для нормального функционирования организма необходимо, чтобы небольшое ее количество всегда присутствовало в крови. Если ее слишком мало, клетки начинают голодать, и это вредит работе органов. Избыток глюкозы в крови чаще всего становится следствием проблем с инсулином, которые могут быть проявлением диабета или других заболеваний.

## Как измеряют уровень сахара

Стоит сразу уточнить: когда говорят об уровне сахара в крови, имеют в виду глюкозу. Это не совсем верно – обычный сахар, попадая в организм, расщепляется на глюкозу и фруктозу.

Традиционные способы измерения уровня сахара – анализы венозной плазмы и капиллярной крови (из пальца). Первый способ более точный, его используют при медицинских исследованиях. Кровь из пальца легко можно забрать самому, поэтому второй метод применяется в карманных глюкометрах, которые позволяют проверить уровень сахара без помощи врача.

За последние несколько лет на рынке появились инновационные устройства для непрерывного мониторинга уровня сахара. Датчики, которые крепятся на кожу или вживляются под нее, передают данные об уровне глюкозы каждые несколько минут.

Еще один клинический метод диагностики диабета – глюкозотолерантный тест. Пациенту измеряют уровень сахара в крови натощак, а потом дают стакан воды с растворенной глюкозой (пероральный способ, ПГТТ). Затем уровень сахара проверяют через два часа (либо через час – у беременных). Это позволяет изучить, как организм усваивает углеводы.

## Норма сахара в крови

У нас уровень сахара в крови измеряется в миллимолях на литр (ммоль/л). В Америке и Европе – в миллиграммах на децилитр (мг/дл). 1 ммоль/л = 18,01 мг/дл.

***Норма сахара натощак***

| | Норма | Преддиабет | Диабет |
|---|---|---|---|
| Венозная плазма | <6,1 ммоль/л | <6,9 | >7,1 |
| Капиллярная кровь | <5,6 | <6 | >6,1 |

***Норма сахара через два часа после ПГТТ***

| | Норма | Преддиабет | Диабет |
|---|---|---|---|
| Венозная плазма | <7,8 | 7,8 - 11,1 | >11,1 |
| Капиллярная кровь | <7,8 | 7,8 -11,1 | >11,1 |

Значение выше 11,1 ммоль/л считается показателем диабета даже при случайном тесте, то есть в любой момент после приема пищи. Минздрав не рекомендует диагностировать диабет на основании однократного анализа крови за исключением острых ситуаций, когда гипергликемия налицо. Для точности исследование нужно повторить.

## Повышенный уровень сахара

Состояние, когда содержание глюкозы выше 7 ммоль/л натощак или 11,1 ммоль/л через два часа после еды, называется гипергликемия. Чаще всего она возникает при нарушении выработки и использования инсулина – гормона, который доставляет глюкозу к клеткам. В таком случае сахара в крови оказывается много, однако он не используется.

Основная причина нарушения выработки инсулина – сахарный диабет, однако есть и другие причины. Скачки уровня сахара могут происходить:

– после операций;
– на фоне заболеваний поджелудочной железы;
– на фоне болезней эндокринной системы, таких как синдром Кушинга;
– на фоне инфекционных заболеваний, например, гриппа;
– при приеме стероидных препаратов;
– после стресса.

Для людей, у которых нет таких заболеваний, скачки уровня глюкозы не страшны – организм сам вернет ее уровень к норме.

Симптомы гипергликемии похожи на симптомы сахарного диабета:

– обильное мочеиспускание;
– постоянная жажда;
– повышенная утомляемость;
– ухудшение мыслительных способностей;
– головные боли;
– размытое зрение.

Гипергликемия – первый признак нарушения углеводного обмена. Если врач диагностировал это расстройство, он может рекомендовать:

– больше двигаться, заниматься спортом;
– перейти на низкоуглеводную диету;
– следить за гликемическим индексом пищи;
– отказаться от вредных привычек.

## Низкий уровень сахара в крови

Состояние, когда количество глюкозы в крови падает ниже 2,8 ммоль/л у здоровых людей и ниже 3,9 у пациентов с диабетом, называется гипогликемией. При нем организму не хватает энергии, клетки постепенно начинают голодать.

От острой гипогликемии страдают все органы, но в первую очередь – нервная система и мозг. К основным симптомам этого состояния относятся:

– головокружение;
– слабость;
– неспособность сконцентрироваться;
– подавленное настроение;
– голод;
– потливость;
– тошнота;
–агрессивность;
– мидриаз – расширение зрачка;
– паника;
– дрожь;
– спутанность сознания;
– судороги;
– парестезия – ощущения покалывания, жжения на коже;
– учащенное сердцебиение.

Если уровень глюкозы падает еще ниже, начинается поражение нервной системы, которое может привести к коме и смерти. Критическое значение – 2,5 ммоль/л у мужчин, 1,9 у женщин и 2,2 ммоль/л у детей.

Эти симптомы могут сопутствовать другим заболеваниям и состояниям, в том числе и гипергликемии. Часто уровень сахара падает вообще без симптомов. Поэтому обнаружить гипогликемию можно лишь с помощью глюкометра.

Гипогликемия чаще всего случается у людей с диабетом, которые приняли слишком много инсулина, а затем не употребили достаточно углеводов. У пациентов с диабетом 1-го типа гипогликемия, равно как и гипергликемия, может возникать с утра, а у людей с диабетом 2-го типа – после физической активности и приема некоторых препаратов.

У людей без диабета опасная гипогликемия возникает достаточно редко, а у полностью здоровых и нормально питающихся – почти никогда. Ее может спровоцировать:

– употребление алкоголя в больших количествах – он может нарушать функцию печени, которая отвечает за насыщение крови глюкозой;
– прием некоторых лекарств – противомалярийных препаратов, антибиотиков, препаратов от пневмонии;
– анорексия;
– гепатиты;
– болезни надпочечников и гипофиза;
– болезни печени;
– болезни поджелудочной железы, в том числе инсулинома – редкая опухоль, которая провоцирует выработку дополнительного инсулина;
– послеродовой период;
– сильное физическое истощение;
– продолжительное голодание.

Кроме того, существует реактивная гипогликемия, при которой уровень сахара в крови падает спустя некоторое время после еды. Она может развиться после операций на желудке и верхней части тонкого кишечника.

Гипогликемию снимают пищей или напитками с высоким содержанием углеводов, инъекциями глюкозы или глюкагона.

ШАШКІ

## Рыхтуемся да конкурсу

У наступным выпуску плануецца новы бліц-конкурс. У якасці падрыхтоўкі прапануем рашыць пазіцыі-64 нашых пастаянных аўтараў.

№№1–3 належаць **Дзмітрыю Камчыцкаму**.



№1 **Белыя 1** *(гл.дыяграму)*: b6, c7, d4, e5, g1 (5).

**Чорныя**: a5, b4, d8, e3, f2 (5).

№2 **Белыя**: c7, d4, e3, e5, g1 (5).

**Чорныя**: b2, b4, c3, f2, h4 (5).

№3 **Белыя**: a1, c7, d4, e5, f4, h2, h6 (7).

**Чорныя**: a5, b2, b4, c3, e7, f2, h8 (7).

Аўтар пазіцыі №4 – **Генадзь Андрэеў**.

№4 **Белыя**: b2, d4, e3, e5, g3, h4 (7).

**Чорныя**: a3, c7, e7, f6, g5, g7, h8 (7).

Наступную пазіцыю прапануе вядучы рубрыкі.

№5 **Белыя**: шашкі a3, b2, дамкі a1, c7, e1 (5).

**Чорныя**: шашкі a5, b4, f6, h6, дамка c5, h4 (6).

## Міжнародны калейдаскоп

Кампазіцыі у міжнародныя шашкі таксама прапануюць нашы пастаянныя аўтары.



Аўтар кампазіцыі №6 *(гл. дыяграму)* – **Вадзім Булат**.

№6 **Белыя**: 15, 16, 24, 29, 32, 33, 39, 43, 48, 49 (10).

**Чорныя**: 4, 7, 13, 17, 19, 20, 22, 25, 35, 40 (10).

38, 24, 44, 27, 9, 23, 2(30), 19(34), 30, 43 х.

Кампазіцыі №№7–9 даслаў **Анатоль Баланюк**.

№7 **Белыя**: 12, 38, 41, 47, 50 (5).

**Чорныя**: 22, 29, 33, 35, 36 (5).

7, 38, 1, 40, 17 х.

№8 **Белыя**: 20, 29, 33, 41, 42, 45 (6).

**Чорныя**: 12, 15, 21, 22, 24, 35, 36 (7).

28, 8, 40, 2, 16(39), 49 х.

№9 **Белыя**: 21, 22, 23, 25, 28, 38, 45, 48 (8).

**Чорныя**: 7, 8, 9, 14, 15, 16, 20, 34, 35, 40 (10).

19, 1, 30, 20, 34 х.

## Дамачныя праблемы

Далей знаёмім з дамачнымі праблемамі, якія нашы аўтары даслалі на конкурс памяці Мікалая Грушэўскага.

**Аляксандр Мікалаеў** прапануе кампазіцыі пад №№10–11.

№10 **Белыя**: шашкі 6, 9, 12, 13, 17, 20, 22, 25, 27, 32, 37, 40, 41, 42, 43, 44, 46, дамка 1 (18).

**Чорныя**: шашкі 2, 3, 4, 10, 11, 15, 16, 24, 29, 34, дамкі 14, 26, 35, 50 (14).

13-8, 38, 41, 14, 26, 17, 18, 19(31), 40(27), 35(20, 32), 8, 10(38), 4(14), 10(24), 15 х.

№11 **Белыя**: шашкі 12, 14, 18, 22, 23, 24, 25, 29, 30, 39, 43, дамкі 3, 49, 50 (14).

**Чорныя**: шашкі 11, 31, 32, 35, 37, 40, 41, 42, дамкі 2, 6, 27, 46, 48 (13).

4-19, 12, 14, 27, 41, 4 х.

Аўтар №12 – **Аляксандр Сапегін.**

№12 **Белыя**: шашкі 9, 10, 24, 30, 43, 44, 47, дамка 14 (8).

**Чорныя**: шашкі 5, 8, 18, 21, 27, 28, 31, 32, 35, дамкі 3, 46 (11).

23, 48(24**A**), 41(14**B**), 25, 42 х. **A**(14), 41(37**C**), 33, 35 х. **B**(37), 3, 20(37), 47 х. C(14), 25, 42 х.

## Супаставім рашэнні

«Народная Воля» за 26 сакавіка 2021 года.

**№4** – fe5(h6), b8(a1), h8, c3(g5), d2(h4), e1 х.

**№5** – e3, ef2, g5, d4, h8(cb2**A**, b2, d6), d4 х. **A**(ab2), ed4, a1 х.

**№6** – hg3, b6, ef4, h8, e3(ab2), ed4, a1 х.

**№7** – g3, cb4, d6, e3, c3, a7 х.

**№8** – g3, c5(b6), f2, e3, a7(g7), a7-b6(d6), d4(h6), f6(c5), b6, d8 х.

Перамог гэтым разам **Сяргей Бурко** (Орша).

Адказы даслалі: **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Сяргей Бурко** (Орша).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту.**

УСМІХНІЦЕСЯ…

## Смяшынкі з Лявонавай скрынкі

– Доктар, убярыце ад мяне суседа па палаце, які прыкідваецца матацыклам.
– Вам што, шум перашкаджае?
– Не, выхлапныя газы!

★★★

– Роза, ты памятаеш свой першы пацалунак?
– Ды што ты! Я нават свайго першага мужа не памятаю!

★★★

Размаўляюць дзве сяброўкі:
– Табе даўно ўжо пара замуж! Што ты сабе думаеш?
– Ой, я ўсё думаю пра твайго мужа.
– Пра майго мужа?!
– Так. Думаю: а не дай бог мне такі ж дурань пападзецца!

★★★

Адэса. Камунальная кватэра. Маці сыну:
– Бора, перастань тыкаць алоўкам у замочную шчыліну! Ты ж выкалеш цёці Сары вочка.

★★★

У мяне жонка і чацвёра дзяцей, а хацелася б наадварот…

★★★

Муж:
– Сёння вечарам я вярнуся позна.
Жонка:
– Я магу цвёрда на гэта разлічваць?

**Лявон ЦЕЛЕШ. г.Дзяржынск.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Намеснік галоўнага рэдактара
Марына КОКТЫШ